Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 26 (4724) 5 ліпеня 2013 г.

## Пункцірам

✔ Беларусь урачыста адзначыла галоўнае свята краіны — Дзень Незалежнасці. «У жыцці кожнага народа ёсць лёсавызначальныя дні і падзеі, якія становяцца пунктам адліку новага этапу ў гісторыі дзяржавы і выклікаюць найвышэйшы духоўны ўздым і яднанне ўсіх грамадзян. Для Беларусі такой вяхой з'яўляецца дзень вызвалення сталіцы нашай Радзімы — горада-героя Мінска, — ад фашысцкіх захопнікаў. Менавіта гэта гістарычная дата па волі беларусаў стала Днём Незалежнасці, звязаўшы разам святыя словы — Свабода і Незалежнасць», — падкрэсліў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на парадзе войскаў Мінскага гарнізона.

✔ Плошча Дзяржаўнага сцяга Беларусі ўрачыста адкрылася ў Мінску. У цырымоніі ўзяў удзел Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Сцяг памерам 14×7 м узняты на сямідзесяціметровы флагшток, устаноўлены ў цэнтры пляцоўкі, якая размяшчаецца на праспекце Пераможцаў. Уздоўж пешаходнай дарожкі ўстаноўлена сем гранітных стэл с гербамі абласцей і сталіцы. З двух бакоў ад лесвіцы размяшчаюцца стэлы з тэкстам Дзяржаўнага гімна і геаграфічнай картай Беларусі.

✔ Напярэдадні Дня Незалежнасці ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася тэматычная выстаўка «Сучасная Беларусь». Яна налічвае амаль 200 выданняў, складаецца з некалькіх раздзелаў: «Краіна Беларусь», «Вобразы мілыя роднага краю», «Сучасны партрэт культуры і мастацтва Беларусі». Акрамя іншага, наведвальнікі могуць азнаёміцца з новымі зборнікамі беларускіх выдавецтваў, якія ўбачылі свет у апошнія тры гады.

✔ Святочную праграму, прымеркаваную да Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, падрыхтаваў Нацыянальны гістарычны музей. Пра жыццё пасляваеннага горада, урачыстыя парады і салюты Перамогі расказвае выстаўка ў музейным дворыку «Мінск у дзіцячых малюнках ваеннага і пасляваеннага часу». У экспазіцыі прадстаўленыя работы са збору Нацыянальнага гістарычнага музея пачынаючы з 1940-х гадоў.

✔ Гасцей свята «Александрыя збірае сяброў» чакае маштабная культурная праграма. Свята ў Александрыі пройдзе 6 — 7 ліпеня ўжо чацвёрты раз. Гулянні традыцыйна адбудуцца ў жывапісным месцы на беразе Дняпра, каля моста, які злучае не толькі два населеныя пункты — Александрыю і Копысь, — але і дзве вобласці — Магілёўскую і Віцебскую. У мінулым годзе Александрыя сабрала больш як 55 тысяч гасцей. Чакаецца, што сёлета іх будзе яшчэ больш.

✔ У Іспаніі прайшоў IX Міжнародны конкурс Opus-2013, у якім узялі ўдзел выканаўцы з Беларусі, Грузіі, Латвіі, Літвы, Казахстана, Расіі ды іншых краін. Юная салістка ўзорнай дзіцячай студыі эстраднай песні «Форум» Цэнтра культуры «Віцебск» Віў'ен Сабі стала першай выканаўцай, якая прадставіла Беларусь на гэтым конкурсе. Члены журы аддалі ёй другое месца.

✔ Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм» завяршыла працу над сямейным фэнтэзі «Кіндэр-Вілейскі прывід» рэжысёра Алены Тураваў. Чакаецца, што карціна будзе ўдзельнічаць у конкурсе фільмаў для дзіцячай і юнацкай аўдыторыі «Лістападзік-2013». На вялікіх экранах лента з'явіцца зімой 2014 года.

Падрыхтавала
**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**



Фота БелТА



# Віншаванне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з Днём Незалежнасці

**Дарагія суайчыннікі!**

Ад усёй душы віншую вас з Днём Незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Галоўнае свята краіны непарыўна звязана з адной з найважнейшых падзей айчыннай гісторыі — вызваленнем Радзімы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Для беларусаў гэта дата з'яўляецца сімвалам нацыянальнага гонару, доблесці і славы, увасабленнем адзінства і з'яднанасці людзей.

Навекі ў памяці застанецца вялікі подзвіг нашага народа, які адстаяў у бітве з гітлераўскімі акупантамі сваю свабоду, адрадзіў краіну, яе разбураныя гарады і вёскі.

Эстафету слаўных спраў у ветэранаў вайны дастойна прыняло пакаленне нашчадкаў пераможцаў, якое пабудавала незалежную суверэнную дзяржаву з эканомікай, што дынамічна развіваецца, перадавой навукай і багатай культурай. Сёння мы ўпэўнена ідзём па выбраным шляху да дасягнення пастаўленай мэты: умацавання моцнай і квітнеючай Беларусі — дзяржавы для народа.

З Днём Незалежнасці, паважаныя суайчыннікі!

Моцнага вам здароўя, міру, шчасця, дабрабыту і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА**

# Першая сусветная: памяць у Беларусі

Фота Яўгена Пясецкага




Аналітычны цэнтр ЕсооМ і газета «Звязда» правялі «круглы стол» на тэму «Першая Сусветная вайна: памяць жыве ў Беларусі».

**Мікола РАЎНАПОЛЬСКІ**

Дастаткова шырокае кола ўдзельнікаў сабралася ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы, каб абмеркаваць самыя розныя пытанні, звязаныя з ушанаваннем падзей далёкай вайны, мемарыялізацыяй многіх гістарычных аб'ектаў, вяртаннем у грамадскую свядомасць герояў Першай сусветнай. Настрой, атмасферу ў размове найперш задалі людзі, якім было пра што расказаць, — пісьменнік і тэлежурналіст Вячаслаў Бандарэнка, фотапубліцыст і краязнаўца Уладзімір Багданаў, калекцыянер старых паштовак, аўтар многіх кніг Уладзімір Ліхадзедаў, доктар гістарычных навук Аляксандр Самовіч, краязнаўца і мастак Барыс Цітовіч, галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка» Вадзім Гігін, кіраўнік Аналітычнага цэнтра ЕсооМ, вядомы палітолаг і публіцыст Сяргей Мусіенка, начальнік упраўлення па ўшанаванні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны Міністэрства абароны палкоўнік Віктар Шумскі і іншыя. Якія страты панесла Беларусь у Першай Сусветнай? Што найперш з мерапрыемстваў варта правесці да 100-годдзя з пачатку вайны? Як ушанаваць подзвігі салдат, афіцэраў у баях за Смаргонь і іншыя вядомыя паселішчы, іншыя мясціны Беларусі? Відавочна, што «круглы стол», ініцыіраваны нераўнадушнымі да гістарычнай памяці людзьмі, стане пачаткам шматабсяжнай інфармацыйнай прапагандысцкай работы, звязанай з вялікай падзеяй у жыцці нашай краіны.

*За падзеяй*

# Імгненні, выхапленыя з жыцця

У Музеі сучаснай беларускай дзяржаўнасці адбылося адкрыццё выстаўкі «Дзень Незалежнасці». Тут прадстаўлены работы фотакарэспандэнтаў Беларускага тэлеграфнага агенцтва. 19 здымкаў фотамастакоў Наталлі Аблажэй, Віктара Талочкі, Рамана Кабяка, Леаніда Шчаглова ды іншых увасабляюць моманты святкавання аднаго з самых важных дзяржаўных свят нашай краіны — Дня Незалежнасці.

**Юзэфа ВОЎК**

Для падрыхтоўкі выстаўкі супрацоўнікі музея прагледзелі прыкладна 200 здымкаў, з якіх адабралі самыя цікавыя. Падчас адкрыцця экспазіцыі выконваючы абавязкі загадчыка Музея сучаснай беларускай дзяржаўнасці Сяргей Ісаковіч падкрэсліў:

— Дзень Незалежнасці можна было прадставіць разнастайнымі шматграннымі здымкамі: маляўнічым парадам, шэсцем моладзі, спартыўнымі мерапрыемствамі. Аднак музейныя спецыялісты вырашылі акцэнтаваць увагу на пакаленні пераможцаў, ветэранах — героях, якія, не шкадуючы здароўя і жыцця, вызвалялі родную зямлю і змагаліся за права распараджацца уласным лёсам. Разам з імі мы паказваем пакаленне маладых людзей, якім перадаецца краіна. Яны ў далейшым будуць развіваць нашу эканоміку і культуру, весці Беларусь у будучыню.

Адметна і тое, што ўсе работы фотамастакоў не пастановачныя (акрамя аднаго здымка). Гэтыя кадры — нібыта выхапленыя з жыцця, на іх адлюстраваны рэальныя пачуцці людзей, жыццёвыя імгненні. Вось ветэраны сустракаюць сваіх аднапалчан, гутарацца, усміхаюцца, навокал моладзь, дзеці. На здымках адлюстраваны не статычныя карціны, а рэальныя падзеі, што адбываліся падчас святкавання Дня Незалежнасці ў розныя гады і ў розных гарадах Беларусі.

— Мы невыпадкова абралі такую канцэпцыю выстаўкі, бо Дзень Незалежнасці — свята, што павінна аб'ядноўваць нацыю, быць своеасаблівым сімвалам яднання народа, дзяржавы, — падкрэслівае Сяргей Анатольевіч.

Пра планы арганізацыі наступных зменных экспазіцый распавёў падчас імпрэзы намеснік дырэктара Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь Аляксандр Храмовіч:

— Мы перад сабой ставім мэту, каб усе знакавыя падзеі, што адбываюцца ў нашай краіне, знаходзілі сваё адлюстраванне ў Музеі сучаснай беларускай дзяржаўнасці. Мы будзем прадстаўляць погляд сучасных аўтараў на актуальныя падзеі. Больш за тое, падобныя выстаўкі дазволяць папаўняць фонды нашага музея.

# Беларускі сцяг над Парыжам

2 — 3 ліпеня ў Парыжы адбыліся мерапрыемствы, прысвечаныя святкаванню Дня Незалежнасці Беларусі.

**Рыта СТАХ**

У павільёне Дафін ад імя Пасла Беларусі ў Францыі быў дадзены ўрачысты прыём з нагоды нашага нацыянальнага свята. На прыёме прысутнічалі прадстаўнікі міністэрстваў, парламента, кіраўнікі мясцовых улад, грамадскіх арганізацый і бізнес-асацыяцый, дзеячы культуры, а таксама паслы, дыпламаты, супрацоўнікі міжнародных арганізацый, акрэдытаваных у Парыжы. Госці маглі азнаёміцца з выстаўкай мастацкіх твораў беларускіх мастакоў Віктара Альшэўскага, Георгія Скрыпнічэнкі і Кастуся Качана, паслухаць беларускія песні ў выкананні калектыву «Купалінка» Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

3 ліпеня ў гонар Дня Незалежнасці Беларусі перад штаб-кватэрай ЮНЕСКА ў Парыжы быў узняты дзяржаўны сцяг Беларусі.

У прывітальным слове да пастаянных прадстаўнікоў і дыпламатаў замежных краін пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА Павел Латушка адзначыў, што ў Беларусі надаецца вялікая ўвага захаванню фальклорнай песеннай спадчыны. Ён падкрэсліў, што Беларусь зацікаўлена ў шырокім прадстаўленні багацця беларускай культуры ў міжнароднай супольнасці. Пастаянны прадстаўнік Беларусі падкрэсліў таксама, што Беларусь будзе надаваць вялікае значэнне выкананню Канвенцыі ЮНЕСКА па захаванні нематэрыяльнай і культурнай спадчыны, 10-годдзе якой адзначаецца сёлета. Зрэшты, у наступным годзе Беларусь будзе адзначаць 60 гадоў членства ў гэтай міжнароднай арганізацыі.

# І песняй, і вершам!

Днямі ў бібліятэцы імя А. С. Пушкіна адбылася вечарына, прысвечаная 65-гадоваму юбілею паэта Анатоля Аўруціна. Сімвалічным быў яе пачатак. Малітва, прачытаная айцом Паўлам, нібы блаславіла свята на цеплыню і шчырасць. Анатоль Аўруцін — паэт, перакладчык, публіцыст, літаратурны крытык. Член-карэспандэнт Пятроўскай Акадэміі навук і мастацтваў, Акадэміі паэзіі. Яго творчасць вядомая за межамі нашай краіны і ацэнена шматлікімі ўзнагародамі. Творца з'яўляецца першым лаўрэатам міжнароднай літаратурнай прэміі імя Сімяона Полацкага, лаўрэатам прэміі імя Чэхава «Русь единая», «Украінскай прэміі імя Маладой гвардыі» і інш. Адзначаны аўтар быў і ў гэты вечар. Яму была ўручана Ганаровая грамата Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў, а таксама медаль за вялікі ўклад у літаратуру ад Саюза пісьменнікаў Беларусі. Госць з блізкага замежжа, галоўны рэдактар часопіса «Бийский Вестник» Віктар Буланічаў, уручыў лаўрэацкі медаль агульнарасійскай літаратурнай прэміі «Белуха» імя Г. Д. Грабеншчыкова за «вялікі ўклад у развіццё расійскай літаратуры і працягванне традыцый рускай літаратуры». Трэба адзначыць, што Анатоль Юр'евіч уваходзіць у склад рэдакцыйнай калегіі часопіса «Бийский Вестник».

Не менш важнай узнагародай для мастака слова былі віншаванні ад людзей, неабыякавых да яго паэзіі, ад сяброў і творчых паплечнікаў. Песняй дапоўніла свае віншавальныя словы Наталля Пятроўна Аўдзеева — старшыня цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры.

Сярод гасцей, якія прыйшлі павіншаваць паэта, былі Барыс Луцэнка — рэжысёр-пастаноўшчык Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, актрыса Ірына Нарбекава, вучні паэта і многія іншыя. Натуральна, што нельга было ўявіць падобную імпрэзу без вершаў. Чыталі іх амаль усе, а сябры-паэты — Мікола Мятліцкі, Міхась Башлакоў, Мікола Шабовіч, Хізры Асадулаеў — павіншавалі юбіляра і ўласнымі радкамі.

**Яніна НАВАГРОДСКАЯ**

*Прынятыя ў СПБ*



**ДАДАЛКА Васіль Аляксандравіч**

*Публіцыст*

Нарадзіўся 15 мая 1954 года ў в. Кукалеўка Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава. Доктар эканамічных навук, прафесар. Працуе на кафедры эканомікі і менеджменту Міжнароднага ўніверсітэта «МИТСО».

Апублікавана больш як 200 навуковых прац, у тым ліку кніг, прысвечаных эканамічным рэформам у Беларусі, Расіі і іншых дзяржавах СНД.



**ДАРГЕЛЬ Славамір Рыгоравіч**

*Празаік*

Нарадзіўся 30 студзеня 1950 года ў в. Белеўцы Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Працуе у СТАА «Белінтерпродукт».

Друкаваўся ў Міёрскай раённай газеце «Міёрскія навіны», у духоўна-асветніцкай газеце «Преображение». У 2012 годзе выдадзена кніга апавяданняў «Земное счастье», а ў 2013 — кніга «300 километров от столицы».



**КУЛЕШ Міхаіл Іванавіч**

*Паэт*

Нарадзіўся 6 жніўня 1956 года ў в. Полкачыцы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Індывідуальны прадпрымальнік.

Першыя вершы былі надрукаваны ў 1973 годзе ў газеце «Полесская правда». У 1993 годзе ў Краснаярскім краі выйшаў першы зборнік вершаў «Белые ночи». Пазней вершы друкавалі ў брэсцкай абласной газеце «Заря», брэсцкай раённай газеце «Заря над Бугом» і інш. У 2011 годзе ў Брэсце выйшла другая кніга — «Окна».



**ЦЕХНЯБЕДЗІНА Таццяна Віктараўна**

*Паэтэса, празаік*

Нарадзілася 18 сакавіка 1963 года ў в. Чурылава Уздзенскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла Мінскае тэхнічнае вучылішча № 47 харчавікоў. Працуе ў Уздзенскім райспажыўтаддзеле.

Друкавалася ў раённай газеце «Чырвоная зорка», часопісе «Беларуская думка», у калектыўных зборніках: «Творчасць класікаў натхняе»(2012), «Ёсць у памяці боль і ўдзячнасць» (2010) і інш. У 2012 годзе выйшла яе кніжка «Куток майго дзяцінства».



**ЯНКОЎСКІ Антон Юр'евіч**

*Паэт*

Нарадзіўся 29 сакавіка 1986 года ў вёсцы Енчы Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў. Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным каледжы мастацтваў.

Друкаваўся ў газетах Літаратура і мастацтва «Гродзенская праўда», «Воранаўская газета», часопісе «Маладосць». У 2010 годзе выйшаў першы зборнік вершаў «Анёл з васільковымі вачыма», у тым жа годзе ўзнагароджаны дыпломам І ступені абласнога літаратурнага конкурсу «Бацькаўшчына светлая мая». У 2012 годзе выйшаў другі зборнік — «Белыя рамонкі».

# Слова Купалы жыве

28 чэрвеня, у дзень памяці Янкі Купалы, на Вайсковых могілках у Мінску, як заўжды, сабраліся пісьменнікі, супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, сталыя аматары творчасці Песняра і маладыя чытачы.

Кіра МУРАЎСКАЯ

Творцы гаварылі пра тое, што спадчына Янкі Купалы не губляе актуальнасці, што да яе трэба звяртацца ў любым узросце, знаходзячы ў ёй і натхненне, і дапамогу. «Слова Купалы — жывое і палымянае, праўдзівае і высокае, яно сапраўды — народнае, — адзначыў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў. — Мы павінны рабіць усё, каб слова яго гучала заўжды!» Пісьменнік Анатоль Бутэвіч таксама падкрэсліў, што сёння вельмі важна прыцягваць як мага больш людзей да творчасці класіка: «Хочацца верыць, што калькасць чытачоў Купалы будзе павялічвацца, бо ў Купалы ёсць адказы на ўсе пытанні: асабліва важна чытаць яго маладым». Праз творы Янкі Купалы беларусаў ведаюць і ў свеце: сучасныя літаратары мусяць памятаць пра сваю місію ў грамадстве. Як заўважыў дырэктар радыё «Беларусь» Навум Гальпяровіч, «менавіта пісьменнікі сталі тымі рухаючымі сіламі, якія заўжды вялі беларусаў да спазнання сябе». Творцы чыталі вершы, прысвечаныя класіку, спявала скрыпка і крычалі над могілкамі груганы, нагадваючы пра тое, што Паэты сыходзяць, а Паэзія — жыве.


Фота Наталлі Кукрэвіч

## Праўда пра Асвейскую трагедыю

2 ліпеня ў Цэнтры пазашкольнай работы з дзецьмі і падлеткамі ў Верхнядзвінску адбылася прэзентацыя кнігі Сяргея Панізніка «Асвейская трагедыя», што пабачыла свет у РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Гэта аповед пра рэальных герояў суровых часін, якія на справе паказалі сучаснікам і нашчадкам, што азначаюць такія паняцці, як любоў да Радзімы і патрыятызм, мужнасць і гераізм. Падзеі ў кнізе адбываюцца ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў мястэчку Асвея Віцебскай вобласці.

У прэзентацыі бралі ўдзел выдаўцы, будучыя чытачы зборніка, прадстаўнікі СМІ і мясцовых улад. Пра кнігу распавяла намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Ала Корбут. Вялікую цікавасць выклікаў расповед мясцовага краязнаўцы Рамана Бубалы.

Удзельнікі мерапрыемства ўсклалі кветкі да брацкіх магіл савецкіх воінаў і пагранічнікаў.

### Каляндар літаратурных дат і падзей

*Ліпень*

1 ліпеня — 420 гадоў з дня нараджэння Альбрыхта Станіслава Радзівіла (1593 — 1656), дзяржаўнага дзеяча Рэчы Паспалітай, гісторыка, мемуарыста, аўтара і перакладчыка каталіцкіх рэлігійных твораў, заснавальніка Пінскага езуіцкага калегіума.

3 ліпеня — 95 гадоў з дня нараджэння Рыгора Саламонавіча Бярозкіна (1918 — 1981), крытыка, літаратуразнаўцы.

3 ліпеня — 65 гадоў з дня нараджэння Анатоля Юр'евіча Аўруціна (1948), паэта, крытыка, перакладчыка.

5 ліпеня — 75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Георгіевіча Машкова (1938 — 2000), празаіка.

10 ліпеня — 60 гадоў з дня нараджэння Васіля Якаўлевіча Сахарчука (1953 — 2003), паэта, перакладчыка.

15 ліпеня — 75 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Андрэевіча Шабаліна (1938), публіцыста, празаіка, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь.

17 ліпеня — 125 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Мікалаевіча Вазнясенскага (1888 — 1966), літаратуразнаўцы.

23 ліпеня — 70 гадоў з дня нараджэння Артура Іосіфавіча Цяжкага (1943 — 1984), празаіка.

24 ліпеня — 115 гадоў з дня нараджэння Рыгора Якаўлевіча Кобеца (Міхаіла Мусіевіча Сандыгі, 1898 — 1990), паэта, празаіка, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

26 ліпеня — 95 гадоў з дня нараджэння Івана Іванавіча Грамовіча (1918 — 1986), празаіка, заслужанага работніка культуры БССР.

29 ліпеня — 105 гадоў з дня нараджэння Юркі Лявоннага (Леаніда Мікалаевіча Юркевіча, 1908 — 1937), паэта, празаіка.

## «Макбет»: адразу дзве прэм'еры!

Святлана ДАШКЕВІЧ

Прэм'ера трагедыі Уільяма Шэкспіра «Макбет» адбылася ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа. Сцэнічная рэдакцыя і вольны пераклад Аляксея Дударава. Пастаноўка заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь, лаўрэата дзяржаўных прэмій Беларусі, дырэктара-мастацкага кіраўніка тэатра Валерыя Анісенкі. Сцэнаграфія Аляксандра Касцючэнкі, касцюмы Ніны Гурло, рэжысёр па пластыцы Дзіяна Юрчанка.

Трэба зазначыць, што перад гэтым «Макбет» прэзентавалі напрыканцы мая далёка за межамі Віцебска, на XV Міжнародным фестывалі «Мельпамена Таўрыі». Коласаўцы працавалі на імправізаванай сцэнічнай пляцоўцы пад адкрытым небам, пабудаванай на лецішчы «Чумацкая крыніца» прэзідэнта фестывалю, дырэктара Херсонскага акадэмічнага тэатра драмы і камедыі імя М. Куліша, заслужанага дзеяча мастацтваў Украіны Аляксандра Кнігі. Дарэчы, пастаноўшчык спектакля Валерый Анісенка вядомы ўкраінскаму гледачу па спектаклі «Чайка» А. Чэхава, які паказалі падчас фестывалю артысты Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі два гады таму. Коласаўскі тэатр трапіў на гэты фэст упершыню. На спектаклі прысутнічалі знакамітыя ўкраінскія журналісты і тэатразнаўцы, а таксама інвестары фестывалю і народныя дэпутаты Украіны. Усе стваральнікі спектакля вельмі хваляваліся, асабліва выканаўцы галоўных роляў Юрась Цвірка (Макбет), Анжаліка Баркоўская і Ірына Цішкевіч (Лэдзі Макбет). Тры тэлекампаніі рыхтавалі рэпартажы з гэтага відовішча.

Умовы акцёрскай работы на адкрытай пляцоўцы вельмі няпростыя. Макбету даводзілася весці дыялогі не толькі на сцэне, а і ў сасонніку, справа і злева ад гледача. Коласаўцам спрыяла поўня, якая асвятляла сцэнічную пляцоўку.

Вынікам гэтай падзеі стала дамоўленасць паміж кіраўнікамі двух знакамітых тэатраў пра ўдзел коласаўцаў у XVI фестывалі «Мельпамена Таўрыі» са спектаклем «Песні ваўка» Вячаслава Паніна і гастролях Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Херсоне. Між іншым, Херсон дзякуючы «Мельпамене Таўрыі» — горад надзвычай тэатральны. Білеты на спектаклі замаўляюць за месяц.

## Абрысы

Вязынка — калыска паэта: тут, у адным з найпрыгажэйшых куткоў Міншчыны, нарадзіўся Іван Дамінікавіч Луцэвіч. З 1972 года кожнае лета ў пачатку ліпеня Вязынка збірае сяброў, каб адсвяткаваць дзень нараджэння Янкі Купалы. 7 ліпеня а 13-й гадзіне на імправізаванай сцэне выступяць літаратары, народны ансамбль музыкі і танца «Вязынка», народны калектыў аўтарскай песні «Імпэт», аматарскія фальклорныя калектывы Маладзечанскага раёна. Традыцыйнае свята паэзіі, песні і народных рамёстваў мае назву «З адною думкаю аб шчасці Беларусі».

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа запрашае на выстаўку «Зямля мая мяне заве», якая прысвечана Дню вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 70-годдзю выдання паэмы Якуба Коласа «Суд у лесе». Лёс Песняра ў гады Вялікай Айчыннай вайны стаў адлюстраваннем лёсу беларускага народа. На выстаўцы прадстаўлены асабістыя рэчы паэта, лісты, тэлеграмы, дарчыя надпісы Якуба Коласа на выданнях паэмы, плакаты і газеты ваенных гадоў.

Новы тэатральны сезон у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета адкрыецца 5 верасня прэм'ерай балета «Вітаўт» Вячаслава Кузняцова. Лібрэта — заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Аляксей Дудараў. Харэаграфія і пастаноўка народнага артыста Беларусі Юрыя Траяна. Дырыжор-пастаноўшчык — Вячаслаў Воліч. Мастак-пастаноўшчык — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Эрнст Гейдэбрэхт.

## Прынятыя ў СПБ



**БІРУК (Шпакевіч) Вольга Цімафееўна**

*Паэтэса*

Нарадзілася 14 снежня 1956 года ў в. Кароцічы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. Працавала ў школах г. Мінска. На пенсіі.

Выступае з вершамі ў часопісах «Маладосць», «Алеся», газетах «ЛіМ», «Чырвоная змена», «Знамя юности», «Настаўніцкая газета», Звязда» і інш. Творы друкаваліся ў калектыўных зборніках. Выдала кніжку вершаў «І тку жыцця сувоі» (2012).



**ГАЛУШКА Анатоль Мікалаевіч**

*Паэт*

Нарадзіўся 20 лютага 1963 года ў в. Магіліцы Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Прыняты ў Сусветную арганізацыю мастакоў-інвалідаў.

Вершы друкаваліся ў абласной газеце «Заря», у рэспубліканскіх газетах «Звязда», «Народная газета», штотыднёвіку «ЛіМ», у часопісе «Маладосць». Падборка вершаў была змешчана ў кнізе «Там, дзе Грыўда і Шчара» — літаратурным альманаху Івацэвіччыны, які пабачыў свет у 2010 годзе. У 2012-м выйшла кніга «Сляды на пяску» — вершы і эсэ.



**ЗУБОВІЧ (Бабурэвіч) Алена Сяргееўна**

*Паэтэса*

Нарадзілася 12 чэрвеня 1977 года ў г. Слуцку. Скончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка. Працуе бібліятэкарам у Беларускім дзяржаўным аграрным тэхнічным універсітэце. Друкавалася ў газетах «Чырвоная змена», «ЛіМ», «Звязда», часопісах «Першацвет», «Полымя», Вясёлка», у калектыўных зборніках «Высокае неба», «Блакітная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў», «Вясёлка», «Залаты Талер». У 2013 годзе ў серыі «Мінскія маладыя галасы» выйшла яе першая кніга вершаў «Сусвет вымяраю табой».



**ШАРКОЎ Анатоль Васільевіч**

*Празаік*

Нарадзіўся 18 красавіка 1948 года ў г. Халопенічы Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут фізічнай культуры і Вышэйшую школу МУС СССР, доктар навук, прафесар гісторыі. Палкоўнік міліцыі ў адстаўцы. Працуе выкладчыкам у Акадэміі МУС Рэспублікі Беларусь. З'яўляецца адным з распрацоўшчыкаў Крымінальна-выканаўчага кодэкса Рэспублікі Беларусь (1999) і Навукова-практычнага каментарыя да яго (2012).

Аўтар звыш 200 публікацый, выдадзеных у Беларусі, Аўстрыі, Германіі, Расіі і інш., у тым ліку «Уголовно-исполнительная система Республики Беларусь: 90 лет» (2010); «Архипелаг ГУПВИ на территории Беларуси 1944 — 1951 гг.» (2003) і інш.



**ЧУМАКОВА Ганна Пятроўна**

*Паэтэса, бард*

Нарадзілася 7 жніўня 1984 года ў г. Рагачове Гомельскай вобласці. Скончыла Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны. Працуе ў краме будаўнічых матэрыялаў.

У 1998 годзе стала лаўрэатам конкурсу маладых талентаў «Подснежник». Публікавалася ў выданнях «Літаратура і мастацтва», «Маладосць» і інш. Пераможца конкурсу аўтарскай песні «Купалаўскія вакацыі-2011».

Аўтар паэтычных зборнікаў «Я повзрослела» (2002), «Мой анёл прысніў мяне» (2012) у серыі «Мінскія маладыя галасы».

# Плён найвышэйшай якасці

Крытык.

Так, адным словам, у энцыклапедычных даведніках вызначаны род занятkaў, прафесійная прыналежнасць, а можа, прызначэнне лёсу Рыгора Саламонавіча Бярозкіна. Без усякіх дапаўненняў, удакладненняў.

Якраз у гэтыя дні (3 ліпеня) спаўняецца 95 гадоў з дня яго нараджэння. Памёр 1 снежня 1981 года. Вось гэтыя лічбы даюць магчымасць ужо больш гістарычна аб'ектыўна паглядзець на пражытае і перажытае ім, набытае і аддадзенае — на жыццёвы і творчы лёс чалавека.



Фота Уладзіміра Крука

Нарадзіўся ў горадзе Магілёве ў сям'і служачага, дзе было пяцёра дзяцей. Недалёка ад Чавусаў у вёсцы жылі сваякі, куды часта наведваліся дзеці. Прырода, побыт, вясковая штодзённасць не маглі не ўплываць на фарміраванне дзіцячага светаўспрымання і светаразумення. У 1932 годзе скончыў сямігодку. Паступіў на Магілёўскі педагагічны рабфак — на трэці курс. У 1933 — 1938 (з перапынкам у паўтара года) вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута. І для Бярозкіна факультэт той быў невыпадковы. Ужо ў раннім дзяцінстве яго самы любімы занятак — кніга. З мастацкай літаратурай ён быў звязаны ўсё сваё жыццё — працай, творчасцю, лёсам. У 1938 — 1941 гг. працаваў загадчыкам аддзела крытыкі ў рэдакцыі часопіса «Полымя рэвалюцыі», літкансультантам у кабінеце маладога аўтара пры Саюзе пісьменнікаў, загадчыкам аддзела крытыкі газеты «Літаратура і мастацтва». Пасля вайны быў нейкі час карэспандэнтам газеты «Советское слово», якая выдавалася савецкай ваеннай адміністрацыяй у Германіі. З 1960 г. працаваў у часопісе «Советская Отчизна» (пазней «Нёман»), у газеце «Літаратура і мастацтва», а ўжо ў 70-я гады — літсупрацоўнікам бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі».

Гэта, так бы мовіць, адкрытая, у значнай ступені творчая, агульнавядомая біяграфія. Але была і іншая, на жаль, не выключная. Балючая, найбольш прыналежная таму часу і таму жыццю. У красавіку 1941 г. Бярозкін быў рэпрэсіраваны за прыналежнасць да ўяўнай антысавецкай арганізацыі. Выратавала, можна сказаць, вайна. Немцы набліжаліся да Мінска. 26 чэрвеня калону вывелі з турмы — ці то расстрэльваць, ці то гнаць у тыл. Але канвой калону пакінуў. Рыгор Бярозкін пайшоў у родны Магілёў. Зайшоў у ваенкамат і папрасіў накіраваць яго на фронт. Ваяваў пад Сталінградам, Кіевам, на Курскай дузе, у Карпатах. Быў паранены. Узнагароджаны ордэнамі Вялікай Айчыннай вайны ІІ ступені, Чырвонай Зоркі і медалямі. Арміі аддаў восем гадоў жыцця. Аднак… у жніўні 1949 г. у Германіі, дзе служыў, быў арыштаваны другі раз з тым жа абвінавачваннем, што і раней. Асуджаны на 10 гадоў пакарання ў лагерах. Зняволенне адбываў у Сібіры і Казахстане. Працаваў чорнарабочым. Вызвалены ў 1955 годзе. Рэабілітаваны ў 1956-м.

Такую вось жыццёвую школу давялося прайсці ў тыя гады знакамітаму пазней крытыку. І не яму аднаму з беларускіх творцаў. Не для аднаго яна канчалася трагічна. Для многіх такое выпрабаванне назаўсёды спыняла рэалізацыю творчых магчымасцей. Іншым надоўга перапыняла. Тое здарылася і з Рыгорам Бярозкіным.

Пачаў пісаць ён рана. У бібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» (т. 1) 1936 годам пазначаны 3 публікацыі. У даваенны час, а хутчэй да першага арышту, асабліва плённымі былі 1939 і 1940 гады. Піша шмат. Дыяпазон творчасці шырокі, але стракаты. Тут літаратура беларуская, руская, яўрэйская. Паэзія, проза, драматургія (яе тэатральнае ўвасабленне). Усё засяроджана на сучаснасці. Творчасць асобных аўтараў, пэўныя тэмы і праблемы пазней будуць паглыблены, больш шырока разгорнуты. Публікацыі з'явіліся ў Германіі. Далей пайшлі цёмныя для творчасці гады лагерныя. Але «ён працаваў і *там*». Так сведчыць крытык, жонка Рыгора Саламонавіча Юлія Канэ. У прадмове да складзенага ёю зборніка крытычных артыкулаў Бярозкіна «Паэзія — маё жыццё» яна піша: «Рыгор Бярозкін быў бліскучым знаўцам паэзіі, яго памяць утрымлівала безліч паэтычных радкоў і твораў. У найцяжэйшых лагерных умовах ён па памяці (і ў памяці) стварыў кнігу пра творчасць буйнейшых беларускіх паэтаў А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі. Заставалася «ўсяго толькі» запісаць яе, зверыўшы памяць з паэтычнымі тэкстамі…»

У тых ранейшых умовах, умовах вайны, службы ў войску, у лагерах, ішло своеасаблівае выпрабаванне на праўду, на чалавечнасць, на грамадзянскасць, ішло назапашванне жыццёвай і творчай энергіі, адчування чалавечага болю, несправядлівасці. У сваю чаргу, гэта ўсё абвастрала пачуццё праўды і прыгажосці, рабіла больш дакладным і выразным успрыманне іх і ў жыцці, і ў мастацкай літаратуры. Думаецца, што якраз у такім стане Рыгор Бярозкін вярнуўся ў беларускае літаратурнае жыццё, у беларускую крытыку ў другой палове 50-х гадоў. Было яму ўжо амаль сорак. Прага творчасці перапаўняла яго. Ён нібыта імкнуўся нагнаць прапушчанае. Праз нялёгкія гады выпрабаванняў яму ўдалося захаваць нязменнай любоў да мастацкага слова, веру ў сваё прызванне літаратурнага крытыка. Адчулася гэта адразу, як толькі пасля доўгага перапынку з'явіліся новыя артыкулы, рэцэнзіі. Так, напрыклад, у першым пасля вяртання 1956 годзе іх з'явілася дзесьці 26. Увогуле, і канец 60-х, і ўсе 70-я былі выключна плённыя для крытыка на часопісныя і газетныя публікацыі. І не толькі. У 1958 г. убачыла свет першая кніга крытыка «Паэзія праўды». Ужо ў самой назве відаць пазіцыя аўтара. Кніга была высока ацэнена крытыкай. Было 6 рэцэнзій. Вось назвы некаторых з іх: «Патрабавальна і па-таварыску», «Майстэрства крытыка», «Майстэрства паэта і майстэрства крытыка»… Пазней выйшлі іншыя кнігі Рыгора Бярозкіна: 9 кніг арыгінальнай крытыкі (на беларускай і на рускай мовах), 2 кнігі выбранага, кніга спадчыны крытыка, складзеная Ю. Канэ.

Плён багаты. Пераважна на паэтычныя імёны, кнігі, творы, ідэі, тэмы. Плён найвышэйшай якасці. Р. Бярозкін быў надзелены як крытык, напэўна, галоўным — тонкім адчуваннем мастацкасці, адчуваннем паэтычнага слова. Чула рэагаваў, аператыўна адгукаўся на новыя літаратурныя з'явы. Эстэтычныя яго ацэнкі літаратурных з'яў і фактаў былі неаспрэчныя. А іх было вялікае мноства. Бо ў полі зроку крытыка, у сферы яго інтарэсаў была ўся літаратура. Але не сама па сабе, не як нейкая абстрактная з'ява, а як сукупнасць арыгінальных творчых індывідуальнасцей. З іх жа кожная вартая ўвагі і павагі.

У вышэйпамянёнай прадмове Ю. Канэ цытуе А. Пысіна. Той згадвае: «На адным са сходаў у Саюзе пісьменнікаў ён (Бярозкін. — **С. А.**) сказаў (не пахвальба адчувалася, а вымушанае прызнанне): "Назавіце хоць аднаго беларускага паэта, пра якога я не пісаў"». Сказана гэта было ў дні пяцідзесяцігоддзя крытыка. І ў наступныя гады было тое самае. Для яго не было сваіх-чужых, белых-чорных. Была беларуская паэзія. І ў ёй — паэты, яе творцы. Розныя па сваіх чалавечых якасцях, таленце, творчых набытках. Пра гэта ён пісаў — заклапочана, шчыра, пераканаўча. Такі падыход да літаратуры дзякуючы супастаўленню, параўнанню творчых асоб дазваляў кожную ўбачыць больш выразна, адметна. Разам з тым даваў магчымасць адчуць, заўважыць, вылучыць пэўныя агульныя тэндэнцыі, заканамернасці.

У гэтай сувязі можна толькі моцна пашкадаваць, што нашай сучаснай крытыцы ў выніку розных правакацыйных, недальнабачных падзелаў пісьменніцкай супольнасці на нейкія тусоўкі, групоўкі, суполкі не хапае крытычнага аб'ектыўнага погляду на ўсю сучасную літаратуру — паэзію, прозу, драматургію. Ды і на сябе — крытыку.

У свой час у працы «Праблемы сучаснай беларускай крытыкі» Віктар Каваленка пісаў: «Калі ацэньваць літаратурную творчасць кожнага беларускага крытыка па канцэптуальнасці зместу, то першае месца займаюць А. Адамовіч і Р. Бярозкін». Праўда, варта ўдакладніць: Адамовіч быў крытык-навуковец, літаратуразнаўца. Бярозкін зноў жа не адразу стаў такім, як пра яго гаворыць Каваленка. У першых, яшчэ нават даваенных артыкулах яго найперш прываблівалў творца, канкрэтны твор. Вызначэнне пэўных літаратурных заканамернасцей, тэндэнцый, увага да творчых індывідуальных ці агульных праблем прыйдзе пазней — як вынік канкрэтных даследаванняў. Даследаванняў паэзіі наогул, творчасці яе лепшых прадстаўнікоў — у прыватнасці. У полі яго крытычнага зроку пастаянна знаходзілася і творчасць класікаў (Янка Купала, Максім Багдановіч), і творчасць сучаснікаў (Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка). Гэта ім прысвечаныя кнігі-даследаванні «Свет Купалы» і «Чалавек напрадвесні», крытыка-біяграфічныя нарысы «Аркадзь Куляшоў» і «Пімен Панчанка». Цэласна-абагулена была пададзена ў разгорнутых артыкулах творчасць Цёткі, М. Танка, П. Броўкі, А. Пысіна, У. Хадыкі, С. Дзяргая… Неаднаразова пісаў пра тады маладзейшых Р. Барадуліна, Д. Бічэль-Загнетаву… Шчырае ўхвальнае слова сказаў пра першы паэтычны зборнік Я. Янішчыц.

Увогуле, калі чытаеш і праглядаеш напісанае знакамітым крытыкам, не перастаеш здзіўляцца вялікай колькасці імёнаў, назваў кніг і твораў. Прычым не проста пералічаных, названых, а разгледжаных, прааналізаваных, ацэненых, суаднесеных са сваім часам, уведзеных у літаратурны кантэкст. Адчуванне такое, што крытык не проста назіраў за літаратурай, вывучаў яе: ён жыў у ёй і ёю. Сапраўды: «Паэзія — маё жыццё».

Валодаючы высокай мастацкай культурай, дасканалым паэтычным густам, выхаваным на класічнай, найперш рускай, літаратуры, тонка адчуваючы мастацкае слова, глыбока ведаючы канкрэтны паэтычны матэрыял, Бярозкін заўсёды даваў ацэнкі выверыныя, высновы рабіў аргументаваныя. А ў аснове ўсяго — праўда. Праўда жыцця, праўда пачуццяў, перажыванняў, праўда чалавечых учынкаў. Як вынік — праўда мастацкага слова. Крытэрый праўдзівасці ў ацэнцы твора для крытыка быў галоўны. За ім не толькі веданне, разуменне і адчуванне літаратуры як мастацтва. За ім — праўда ўласнага суровага жыццёвага вопыту, праўда асабістых маральных і духоўных выпрабаванняў. У гэтым сэнсе назва першай кнігі — «Праўда паэзіі» — не выпадковая. Заяўлена была крытычная пазіцыя. Яе ён прытрымліваўся заўсёды. І ў вызначэнні станоўчага ў творы, і ў пэўных крытычных заўвагах.

Крытык Варлен Бечык, які пэўны час у працы кантактаваў з Рыгорам Саламонавічам, у сваіх дзённіках згадвае (кн. «Радкі і жыццё»): «Размова Бярозкіна з N пра яго вершы: "Не разварочвацца ў маім сэрцы, напружанне без прычыны, канфлікт без зерня. Мне шкада і Вашага ўмельства і мовы… *Гэта нарадзілася не ў Вашых кантактах з жыццём, а ў горных высях*"» (выдзелена мною. — **С. А.**).

Усе канкрэтныя крытычныя заўвагі грунтаваліся якраз на гэтым прынцыпе: праўда жыцця — шчырасць, сумленнасць паэта — праўда мастацтва.

Вось артыкул «Паўгоддзе палымянскай паэзіі». Згадваецца падборка вершаў Максіма Танка, цыкл, прысвечаны Сібіры, Туве. Выснова: «Найбольш цікавае ў іх — не быт, не этнаграфія чужога краю: вельмі ўжо коратка-“дэкадным” было знаёмства, каб пайсці далей “шуму палынных траў”, дыму кастра, што “скача, як шаман”, альбо такога назірання: “Тут гарады, заводы ўсталі”». Цікава для крытыка еднасць душы паэта і прыроды, туга па родных мясцінах, па маці.

Пры канкрэтным разглядзе твора ці творчасці асобнага пісьменніка агульныя патрабаванні і пажаданні канкрэтызаваліся ў адпаведнасці з індывідуальнай мастацкай адметнасцю. Адначасова такі разгляд, аналіз творчасці непазбежна падштурхоўваў крытыка да высноў больш агульнага характару. Спачатку ў адносінах да творчай асобы, яе станаўлення, узаемадачыненняў з пісьменніцкім асяроддзем. Пазней узнікалі натуральна праблемы гістарычнага руху нацыянальнай літаратуры, яе ўзаемадзеяння з суседнімі літаратурамі, найперш рускай. Пашыраюцца крытычныя абсягі, узбагачаецца тэматыка і праблематыка. Піша пра многіх рускіх паэтаў XIX стагоддзя, пра ўкраінскую паэзію. З'явіўся і шэраг артыкулаў, прысвечаных тагачаснай прозе — «Палескай хронікі» Івана Мележа (3 артыкулы), «Хатынскай аповесці» Алеся Адамовіча, аповесці «Пастка» і апавяданням Васіля Быкава. Тры рэцэнзіі-артыкулы з'явіліся тады з аналізам і ацэнкай кніг празаіка на той час маладзейшага, Івана Пташнікава. Цікавы тут артыкул, прысвечаны раману «Мсціжы». Калі пачатак акрэслівае сутнасць манеры пісьма: «Проза Івана Пташнікава не для лёгкага чытання. Пташнікаў з тых пісьменнікаў, якія і пальцам не паварушаць, каб заслужыць ласку ў чытача ці проста спадабацца яму. Яму давай чытача вынослівага і стойкага…», то заключны абзац дакладна вызначае месца рамана ў беларускай літаратуры і ў творчасці пісьменніка: «"Мсціжы" — значная творчая ўдача Івана Пташнікава, удача ўсёй нашай прозы ў яе намаганнях даследаваць і адлюстраваць жыццё народа, стварыць няспрошчаны, непрыгладжаны народны характар».

Крытыка Рыгора Бярозкіна народжана сваім часам, літаратурай гэтага часу. Сугучная ім. Прайшлі гады, нават дзесяцігоддзі. З'явілася іншая літаратура, іншая крытыка, пануе другая літаратурная атмасфера ў духоўным нашым жыцці. Творчасць крытыка ўвайшла ўжо ў нацыянальны літаратурны працэс. Можна на яе паглядзець у гістарычным кантэксце, параўнаць, супаставіць, ацаніць. Выснова напрошваецца наступная: яго крытыка жыве, сучаснай літаратуры такой крытыкі вельмі не хапае.

Серафім АНДРАЮК

# Гісторыя двух ператварэнняў

На мяжы XX — XXI стагоддзяў нашым літаратуразнаўствам многае зроблена па вывучэнні творчасці Максіма Гарэцкага, у тым ліку з прыцягненнем еўрапейскага мастацкага кантэксту. Тым не менш для кампаратывісцкіх росшукаў літаратурная спадчына беларускага класіка па-ранейшаму ўяўляе сабой неабсяжную і надзвычай удзячную глебу, што і хацелася б паказаць на прыкладзе апавядання «Рускі» (1915, апубл. 1925). Спынімся гэтым разам на аналогіі, бадай, самай нечаканай — з вядомай навелай «Ператварэнне» («Die Verwandlung», 1912) Франца Кафкі, для якога гэты год, як і для М. Гарэцкага, юбілейны: 3 ліпеня сусветная культурная грамадскасць адзначыць 130-годдзе з дня яго нараджэння. Па сімвалічным супадзенні, слынны аўстрыйскі пісьменнік апублікаваў навелу менавіта ў год стварэння М. Гарэцкім апавядання «Рускі» — у 1915-м.

**Ева ЛЯВОНАВА**

У аснову навелы Ф. Кафка паклаў сюжэт з ператварэннем чалавека ў «пачварную жамяру». Сам па сабе феномен ператварэння чалавека ў жывёліну не быў яго вынаходніцтвам. Паводле прац вядомага расійскага вучонага Е. Меляцінскага, у міфах і казках розных народаў дастаткова шырока распаўсюджаны ініцыяльныя формулы, якімі пачынаюцца аповеды пра сівую даўніну: «гэта было тады, калі людзі яшчэ былі жывёламі» або «гэта было тады, калі жывёлы яшчэ былі людзьмі». Праўда, метамарфоза героя Ф. Кафкі іншая — яна нечаканая, фатальная, цягне за сабой незваротныя драматычныя наступствы для персанажа і завяршаецца яго смерцю. Па сутнасці, чытач мае справу з аўтарскім міфасюжэтам, з'яўленне якога было абумоўлена цэлым шэрагам прычын: і непаразуменнямі самога Кафкі з сям'ёй, найперш з бацькам, і ўласнай фізічнай немаччу, і няўпэўненасцю ў сваіх пісьменніцкіх здольнасцях, і атмасферай суцэльнага адчужэння, што панавала ў Аўстра-Венгрыі напярэдадні Першай сусветнай вайны, настроямі адзіноты і бездапаможнасці перад блізкай і непазбежнай катастрофай. Апошняя акалічнасць, пры ўсёй паглыбленасці Ф. Кафкі ва ўнутраныя праблемы, мела для яго выключна важнае значэнне. Не будучы палітычна ангажаванай асобай, ён, аднак, разумеў: «Кожнае сапраўднае мастацтва — дакумент, сведчанне». Ф. Кафка сачыў за падзеямі ў Еўропе, блізка да сэрца прымаў сучасныя яму сацыяльна-гістарычныя катаклізмы. «Вайна, рэвалюцыя ў Расіі і беды ўсяго свету ўяўляюцца мне разводдзем зла, — гаварыў ён. — Гэта паводка. Вайна адчыніла шлюзы хаосу». У час вайны, паводле яго слоў, «усё духоўнае заглушаецца і душыцца фізічным, жывёльным». У сувязі з вядомай кнігай нямецкага празаіка Леангарда Франка «Чалавек добры!» пра Першую сусветную Ф. Кафка заўважыў: «У большасці сваёй людзі зусім не злыя. Людзі паводзяць сябе кепска і наклікаюць на сябе віну таму, што гавораць і дзейнічаюць, не ўяўляючы сабе наступстваў сваіх слоў і ўчынкаў. Яны лунатыкі, а не злодзеі».

Вышэйпрыведзеныя выказванні Ф. Кафкі вельмі істотныя, бо дадаюць падстаў успрымаць сюжэт таго ж «Ператварэння» не толькі як своеасаблівы аўтакаментарый, але і як парадыгму чалавечага існавання ў памежных, смяротна небяспечных абставінах, а значыць, тым больш дазваляюць разглядаць навелу поруч з апавяданнем М. Гарэцкага, у якога сюжэт хоць і цалкам належыць рэальнасці, але ў сэнсавых адносінах, як будзе далей паказана, таксама выходзіць за межы канкрэтнага выпадку.

Сюжэт жа твора М. Гарэцкага сам па сабе просты. На шляхах Першай сусветнай «у часе доўгага і спакойнага стаяння ў зацішку малаважнага фронту» перасякуцца лёсы двух салдат — мабілізаванага ў расійскае войска селяніна-беларуса і «аўстрыяка» (мяркуючы па гаворцы, украінца). Забаўіўшыся блізу аўстрыйскіх пазіцый у пошуках якога-небудзь «пажытку» ў дадатак да ўбогага пайка, на зваротным шляху беларус нечакана сутыкнецца з аўстрыйскім салдатам. Агаломшаныя ворагі хутка, аднак, апамятаюцца, выкажуць лагодныя намеры, павітаюцца за руку, «як даўныя сябры», і, паклаўшы стрэльбы, падзеляць між сабой аўстрыякавы хлеб і гарэлку ды махорку беларуса. Час разысціся, але абодва пачуваюцца прыкра, і аўстрыяк прапануе беларусу: «Чы веды менэ до Русії, чы разойдэмся», на што той адказвае, як і варта было чакаць у такой сітуацыі: «Не, братка, ідзі сабе да сваіх». Зноў пацiснулі адзін аднаму руку, нават ужо і «завярнуліся і свае бакі», ды «бліснула» салдату-беларусу «ў галаве», каб жа «не спазніцца і каб пасля не шкадаваць, што быў вароналю...» І гучыць услед аўстрыяку раптоўны стрэл (апавядальнік знарок акцэнтуе, што стрэл зроблены быў беларусам неўсвядомлена, «без дум»: «І раптам бліснула яму ў галаве…»; «…толькі бліснула яму так у галаве…»), і нядаўні «братка» падае ніцма, выдыхаючы з апошнімі словамі «безнадзейную крыўду» на свайго забойцу.

З таго часу «чалавек… **перамяніўся**» (вылучана мною. — **Е. Л.**); **ператварыўся** — з не меншымі падставамі маглі б сказаць мы. Неўсвядомлены, спантанны ўчынак абярнецца для яго знішчальнай, невыноснай душэўнай мукай, бясконцай жудой, няспынным болем і маркотай, па сутнасці — вар'яцтвам, і ад гэтага «ператварэння» ўратаваць гаротніка не ў стане ніякія дактары. «Я рускі! Я рускі! Рускі, рускі!..» — крычыць ён у шпітальнай палаце, калі няўсцерп забярэ хвароба.

Сама мова твораў аўстрыйскага і беларускага пісьменнікаў ёсць падмуркам для аналогіі. Пра стылёвы аскетызм Ф. Кафкі, яго стрыманасць і нават сухаватасць, поўную адсутнасць нейкай мастацкай аздобы ў яго прозе, лапідарнасць і традыцыйнасць яго моўных структур нямала сказана германістамі. Нешта блізкае сцвярджаюць літаратуразнаўцы і па адрасе беларускага пісьменніка. М. Стральцоў, напрыклад, звяртаў увагу на адсутнасць у творах М. Гарэцкага, «празаіка строгага», «шырокай, разгалінаванай фразы са складанай сістэмай кіравання, падпарадкавання, сузалежнасці...» Падобны пункт гледжання месціць у сабе працы і іншых даследчыкаў мастацкай спадчыны пісьменніка.

У абодвух выпадках галоўны герой ва ўсіх адносінах звычайны: у Ф. Кафкі — сціплы камівояжор, у М. Гарэцкага — салдат і селянін у адной асобе; інакай кажучы, «маленькі чалавек», які апынуўся ў незразумелых, нязвыклых для сябе, выключных абставінах.

Што ж да сітуацый ператварэння, то найперш працытуем пачатак кафкаўскай навелы, дзе да будзённага проста, натуралістычну дэталёва выкладаецца жахлівая ява: «Прачнуўшыся аднойчы раніцай пасля неспакойнага сну, Грэгар Замза заўважыў, што ён у сваім ложку ператварыўся ў пачварнае насякомае. Лежачы на панцырнацвёрдай спіне, ён бачыў, варта было падняць галаву, свой карычневы, выпуклы, падзелены дугападобнымі лускамі жывот, на версе якога ледзьве трымалася <…> коўдра. Яго шматлікія, танюсенькія ў параўнанні з астатнім целам ножкі бездапаможна мітусіліся ў яго перад вачыма».

А цяпер згадаем паводзіны Рускага пасля таго, як ён «перамяніўся», стаў жывым трупам, іншымі словамі — пасля яго ператварэння: ён «упадабаў ляжаць на зямлі з раскінутымі нагамі і рукамі», імітуючы тую самую позу, у якой сустрэў сваю нечаканую смерць забіты ім «братка»-аўстрыяк. Калі ўдумацца, ці ж не нагадвае нават вонкава апісанне гэтага распластанага на зямлі, тварам да неба, чалавека, што падсвядома ідэнтыфікуе сябе з ахвярай здзейсненага ім непраўдзівага забойства, тую самую кафкаўскую агідную і бездапаможную жамяру, у якую ператварыўся Грэгар Замза? Не кажучы пра сутнаснае, экзістэнцыяльнае напаўненне жудаснай метамарфозы герояў Ф. Кафкі і М. Гарэцкага, якая ў абодвух творах ёсць вызначальнай сюжэтнай акалічнасцю.

Экзістэнцыяльнай насычанасці свайго сюжэта Ф. Кафка дасягае праз спалучэнне-сутыкненне нечуванага абсурдызму, умоўнасці з падрабязнасцямі побыту, але найперш — праз зааморфны код, робячы гэта дзеля выкрыцця ненатуральнасці, неразумнасці, алагічнасці светабудовы, якая не адпавядае сапраўднай гуманнасці ды і простай логіцы. М. Гарэцкі, застаючыся на цалкам кожнадзённай, рэальнай глебе і ў рэчышчы рэалістычнага мастацкага слова, анталагізуе свой аповед іншым шляхам — праз адсылкі да Біблії, надзвычай істотныя ў алюзійным патэнцыяле апавядання. Сугестыўна ў «Рускім» прачытваецца алюзія на старазапаветнае паданне пра Каіна і Авеля, пра першае ў гісторыі чалавецтва братазабойства. Забіты Авель, але Бог чуе яго «голас крыві» і абрынае ў прадонне забойцу. Каін, забіўшы брата, забівае і сябе, бо, паводле вядомага знаўцы Старога Запавету Д. Шчадравіцкага, сакральна, «містычна ўсе людзі ёсць нібы адзін чалавек… той, хто губіць блізкага свайго, губіць самога сябе». Думка пра тое, што ўсе людзі — нібы адзін чалавек і кожны чалавек — нібы ўсё чалавецтва, ускосна гучыць і ў апавяданні М. Гарэцкага, прычым, што важна, у свядомасці самога забойцы: «Аж рукі трохі дрыжэлі, і было брыдка, што так блазнуе, **быццам не ворага забіў, а якога свайго**» (вылучана мною. — **Е. Л.**). Менавіта з біблейскім паданнем звязвау семантыку апавядання і Алесь Адамовіч, маючы на ўвазе душэўную драму героя пасля ўчыненага ім забойства: «Застаўся толькі чалавек — нібы першы на зямлі, той, што забіў…»

Паказальна, што, як і біблейскі Каін, «чалавек з акопаў» у М. Гарэцкага быў чалавекам якраз ад зямлі, селянінам. Зноў узгадаем Біблію: «І цяпер пракляты ты ад зямлі… больш не стане яна даваць табе сваёй сілы…» (Быц. 4:11, 12; пер. В. Сёмухі). Не дае яна «сваёй сілы» і Рускаму, нават яго ўласныя апошнія сілы забірае: упадабаўшы ляжаць на зямлі, ён «зазябіў сабе грудзі», з чаго і быў адпраўлены ў тылавы шпіталь.

Канцэптуальна важна ў абраным намі кампаратыўным ракурсе, што і ў Ф. Кафкі, і ў М. Гарэцкага героі ўяўляюць сабою персаніфікацыю комплексу віны. У аўстрыйскага пісьменніка праблема віны мела перадусім вытокі асабістыя; як вядома, ён праз усё сваё нядоўгае жыццё пачуваўся вінаватым перад сям'ёй, асабліва перад дэспатам бацькам, сам быў жывым увасабленнем амбівалентнасці, раздвоенасці, існаваў — паводле яго ўласнага прызнання — у стане «не смерці, а вечнай пакуты памірання». Неадольнае пачуццё віны перажывае і яго герой Грэгар Замза.

У той жа час, на што вышэй ужо звярталася ўвага, навела Ф. Кафкі не была адно мастацкай сублімацыяй яго інтымных перажыванняў, інакай не ўспрымалася б яна цягам усяго XX стагоддзя як метафара рэчаіснасці, як універсальная выява існавання чалавека ў небяспечным, жорсткім свеце. Бясспрэчна, мае рацыю вядомы расійскі германіст У. Сядзельнік, калі піша: «…логіка прамінулага «кафкаўскага» або «кафкіянскага» стагоддзя не вытрымала выпрабавання на слушнасць. Але галоўнае — у гэтых часткова запазычаных у жывога жыцця, часткова сканструяваных вобразах і малюнках таілася не падлеглая раскрыццю загадка быцця і небыцця…» Ды і сам аўтар «Ператварэння» заўважаў, што «Замза не з'яўляецца цалкам Кафкам», што наогул уся «сучаснасць — гэта змяненне і ператварэнне». Насамрэч, праблема віны ў навеле ў рэшце рэшт засланяецца іншай праблемай — трагічнай адзіноты чалавека сярод людзей. Сама віна героя Ф. Кафкі падаецца выразна амбівалентнай: з аднаго боку, Грэгар Замза не апраўдаў надзей сям'і; з іншага — чытач бачыць і віну сям'і перад Грэгарам, якога яна звыкла ўспрымала як сродак здабывання матэрыяльных даброт і ад якога бязлітасна адвярнулася пасля напаткаўшай яго бяды.

Неадназначнай уяўляецца і віна Рускага. Ён забойца, і забойства гэтае тым страшней, што ён пазбаўляе жыцця ў пэўным сэнсе «свайго» — славяніна, «брата». З іншага боку, яшчэ большая віна ляжыць на тых, хто гвалтам навязаў яму ненатуральныя, ненармальныя правілы паводзін, маральна дэзарыентаваў.

У абодвух творах мае месца дзіўная ўстойлівасць сюжэтнага развіцця, вельмі нетрадыцыйна пададзены прынцып суадноснасці ў ім дынамікі і статыкі. І Грэгар Замза, і Рускі ўнутрана ачалавечваюцца пасля факта свайго вонкавага расчалавечвання. Замза, набыўшы пачварнае аблічча, нашмат вастрэй адчувае і сорам, і гора, і спагаду да родных, і дакоры сумлення, прагне — як ніколі раней — прыналежнасці да сямейнага кола (у той час як сям'я ўнутрана, калі можна так сказаць, ажывёльваецца). І Рускі пасля ўчыненага ім забойства па ўнутраным пачуванні таксама ж ачалавечваецца, сумленне не дае яму спакою, раздвоеная душа ірвецца і курчыцца ў невыноснай нудзе.





Абодва творы адметныя выключным мастацкім псіхалагізмам асаблівага кшталту: і ў «Ператварэнні», і ў «Рускім» героі паказаны ў стане свайго роду дуалізму свядомасці і падсвядомасці. Як у аўстрыйскага празаіка, так і ў беларускага знаходзяць увасабленне два канфлікты — знешні і ўнутраны. Прычым, першы падкрэслена лакалізаваны, ён толькі запачаткоўвае сюжэт; другі ж, унутраны, займае ў кожным з твораў цэнтральнае месца і ўяўляе сабою гісторыю перажывання персанажамі сваіх трагедый, гэткіх непадобных і падобных у адзін і той жа час.

Ёсць і яшчэ адна акалічнасць, якая збліжае аўстрыйскага і беларускага творцаў, — гэта вялікая ўвага абодвух да Ф. Дастаеўскага. Ён быў любімым пісьменнікам Ф. Кафкі («кроўным сваяком», паводле ўласнага яго прызнання). У пэўным сэнсе працягам і развіццём традыцый Ф. Дастаеўскага была і творчасць М. Гарэцкага; невыпадкова будучыню беларускай літаратуры ён звязваў з эстэтычнымі дасягненнямі накшталт прыналежных рускаму класіку. Сам лад мыслення на мяжы з філасофіяй, хоць і праз пасрэдніцтва мастацкіх вобразаў, збліжае М. Гарэцкага з Ф. Дастаеўскім. Апавяданне «Рускі» ў гэтым сэнсе не выключэнне. Тая ж сітуацыя «злачынства і пакарання», што і ў аднайменным творы рускага празаіка, тая ж раздвоенасць героя, той жа разрыў паміж свядомасцю і падсвядомасцю, тая ж катастрафічная перабудова асобаснай структуры персанажа ў выніку разбуральнага зваротнага ўдару па псіхіцы. Праўда, высакародны і далікатны Радыён Раскольнікаў учыняе забойства не тое што не «без дум», а якраз з-за адданасці ідэі, але праз маральны закон, праз біблейскую запаведзь «Не забі» пераступаюць абодва.

Такім чынам, апавяданне М. Гарэцкага, як і навела Ф. Кафкі, мае якасці парадыгматычныя; у ім не толькі паказаны знішчальныя наступствы «вялікай вайны белых людзей» (А. Цвэйг), але і прадбачыцца ці не самая значная драма XX стагоддзя — пазбаўленне чалавека ўласнай волі, ператварэнне яго ў аб'ект бязлітасных маніпуляцый. Магчыма, усведамляючы значэнне і ўніверсальнае гучанне «Рускага», аўтар і адмовіўся ад першапачатковага намеру ўключыць апавяданне ў кнігу «На імперыялістычнай вайне», надаўшы яму самастойнае жыццё.

Анатоль АЎРУЦІН



***

*Па белізне знікаючы паволі,*
*Нячутна растваraючыся ў ёй,*
*Бунтуе вены музыка паталі,*
*Якая хворай чуецца крывёй.*

*Насуперак бязлітаснай прыродзе,*
*Калі, здаецца, лепей памаўчаць,*
*Таемны гук прыйшоў і не сыходзіць,*
*А ўсіх астатніх гукаў не чуваць.*

*Таемны гук... Ён, быццам бы збавенне,*
*Загадкаю грукоча над шашой:*
*Ці мо душа ўжо стала прасвятленнем,*
*Ці прасвятленне робіцца душой?*

***

*Шчэ доўжыцца лета, ды ёсць адцвітання пячаць*
*У кронах паніклых, што звыкла чакаюць спачыну.*
*Няўжо нам Айчына даецца, каб толькі стагнаць,*
*Нібыта без стогнаў Айчына — ужо не Айчына?*

*Зялёныя сполахі мерна пранізваюць цьму,*
*Ў маёй Беларусі гавораць пра іх — бліскавіцы.*
*І штосьці трывожыць, як продкаў стагоддзі таму,*
*І дзіву даешся, хоць нечаму быццам дзівіцца.*

*Спяшаецца час... У яго невядомы расклад —*
*За ім паспяваюць адно што дзятва ды старыя.*
*Шпакі прыляцелі... А хутка й збірацца назад...*
*Дзіцёнак з'явіўся... Ці ўспомніць ён дні залатыя?*

*Здаўна так вядзецца... Пайсці й не пакінуць слядоў...*
*А я спадзяванне люляю парою начною,*
*Каб голас Айчыны пачуць праз сумёты гадоў*
*І ціха сысці назаўжды, не заўважаным ёю...*

***

*Я ізноў, як заўжды, пабаяўся пакрыўдзіць прыроду,*
*І касцёр патушыў, неслухмяны заліўшы агонь,*
*І свой цень акунуў у нябесна-бязмежныя воды,*
*Да вады пацягнуўся, далонню кранўшы далонь.*

*Залатая вада мне высокае штосьці шаптала,*
*І сцвярджальна ківалі, куды ні зірні, чараты.*
*Быў бязмежным прастор... Толькі мне ўсё здавалася мала,*
*І рука трапятала, і небна трымцелі ніты.*

*Думаў: што варажыць? Цот — няцот... Хто тут будзе пярэчыць,*
*Бо жыццё — не рамонак, дзе лёгка пялёстак сарваць!*
*За далёкай сасной ці то певень стагнаў, ці то крэчат...*
*І ручэй галасіў і не мог галашэння стрымаць.*

*А куды гэта ўсе? А куды вы? Ў якія Стажары?*
*Гучна чмякнецца долу такі неўгаворлівы ліст.*
*Хто бывае сумнейшым, чым лебедзь, пазбаўлены пары?!*
*І гармонік маўчыць, як на неба пайшоў гарманіст...*

*Ледзь світала наўкол... Паспытаўшы вады ясназорнай,*
*Я далонь асцярожна адняў ад нябеснай рукі.*
*Стала болей пытанняў... І часу круціліся жорны...*
*Суха шчоўкала голле... Плыў шэры туман ад ракі...*

**Пераклад з рускай**
**Міколы ШАБОВІЧА**


Фота Кастуся Дробава

## Дэбют

Люба ШТОРМ



Люба Аладзьева сёлета скончыла 10 класаў Самахвалавіцкай сярэдняй школы Мінскага раёна. Піша вершы на рускай, беларускай і англійскай мовах. Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Бярозка», «Рюкзак». У «Літаратуры і мастацтве» гэта першае яе выступленне. Друкуецца пад псеўданімам Люба Шторм.

### Мае героі

*ты даруй*
*я люблю скардзіцца*
*і з сабою*
*мне цяжка радзіцца*
*я зусім яго не трымаю*
*я зусім яго не кахаю —*
*забаўляюся, цешуся словамі*
*я табе*
*падарыць гатовая*
*вершы ўсе і яшчэ трошачкі*
*толькі зноўку я нездаровая*
*і да ранку чытаю ў ложку*
*ну чаму ты мяне не бачыш?*
*я жывая —*
*праз два сантыметры*
*кожны старт для мяне —*
*фініш*
*і забыліся ўсе сантыменты*
*я чакаю рашучага моманту*
*пульс рытмуе ўсхвалявана*
*як героі маіх раманаў*
*адразу*
*ці не адразу*
*але нарэшце застануцца разам?*

### Закаханая я, закаханая

*Ясным сонцам са мной*
*дзень вітаецца,*
*І праменні, світаннем люляныя,*
*Светла ў сэрцы маім*
*адгукаюцца:*
*«Закаханая я, закаханая!»*

*І ты крочыш за мной*
*нездагадліва,*
*А я, ў лоўчым сілку затрыманая,*
*Паўтараю заклён мой*
*дурманлівы:*
*«Закаханая я, закаханая!»*

*І, спрадвечнай журбой*
*ахінуўшыся,*
*Нейк соладка ные душа мая.*
*З цэлым светам пяю,*
*усміхнуўшыся:*
*«Закаханая я, закаханая!»*

*І, калі прыйдзе час*
*на расстанне нам,*
*Зазірнуўшы ў вочы туманныя,*
*Пажадаю шчаслівай дарогі я —*
*Закаханаму, закаханаму.*

### О, мой Серафіме!

*Не прыходзяць, сышлі зусім*
*Думкі мае, як паветра ўлетку.*
*Але час мяне не кранае.*
*О, мой Серафіме! Мой Серафіме!*
*Пачуй мяне, сыдзі на палеткі —*
*Мне так цябе не хапае.*
*Скруха мая, быццам страшэнны*
*сквар,*
*Што на пустэчы палае,*
*І я не ведаю, як мне напіцца*
*і скінуць цяжар.*
*І ці не будзе мне воцатам вада тая.*

Павел САКОВІЧ



# Звініць сталёвы нерв напяты

Нядаўна ў рамках праграмы, адобранай Прэзідэнтам краіны, мне пашчасціла з групай пісьменнікаў пабываць на Брэстчыне. Хачу падзяліцца ўражаннямі ад наведвання Баранавіч. Як выхадцу з сям'і патомных чыгуначнікаў мне асабліва спадабаўся аповед старшыні гарвыканкама В. І. Дзічкоўскага пра паходжанне горада. Амаль з дзіцячым захапленнем разглядваў я рарытэтныя экзэмпляры лакаматываў і спецыяльнай тэхнікі ў музеі гісторыі Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі. Прызнаюся, пашкадаваў, што такога няма ў маёй Оршы. Усё пабачанае і пачутае адгукнулася ўва мне пачуццём гордасці за нашу Беларускую чыгунку, якая актыўна вядзе тэхнічнае абнаўленне. Ажылі і асабістыя ўспаміны. Ёсць і яшчэ адна важная нагода звярнуцца да гэтай тэматыкі: Беларускай чыгунцы споўнілася 150 гадоў.

### Беларускай чыгунцы

*Табе аж паўтараста год!*
*Святкуем юбілей з размахам:*
*Служыў чыгунцы ўвесь мой род*
*Аж сем стагоддзяў, нават з гакам.*

*Паўсюль зіхціць аркестраў медзь,*
*Сцягі лунаюць над піронам...*
*Дай бог ніколі не грымець*
*І мне ў жыцці пустым вагонам.*

*Ты з ворагам баі вяла:*
*Масты ўзрывала, шпалы, рэйкі.*
*А Перамога падышла —*
*Адразу ёй пераявла*
*На першы пуць — галоўны —*
*стрэлкі.*
*Аршанскі вузел твой заўжды*
*Узорам гераізму будзе.*
*Тут моцна ворагу тады*
*На шыі зацягнулі вузел.*

*А хто ж любімы твой герой?*
*Над тайнай прыўзніму заслону:*
*З тваім сулаў і выбар мой —*
*Герой найпершы ён, Заслонаў!*

*І мару я не памяняў.*
*Магу пацвердзіць урачыста,*
*Што і сягоння б шмат аддаў,*
*Каб стаць, як бацька,*
*машыністам!*

### Паміж радзімаю і мной...

*Дзясяткі хуткіх цягнікоў*
*Ляцяць стралой праз Мінск-Усходні.*
*Гудкамі клічуць зноў і зноў:*
*«Сядай, дамчым да Оршы роднай!»*

*Мо за кантролерам якраз*
*Сядзіць пляменнік мой малодшы?*
*Мяне — студэнта — ён не раз*
*Падвозіў да сталіцы з Оршы.*

*Цяпер то справы, то сям'я —*
*Ніяк да родных не збяруся.*
*Чакай, пляменнік, можа, я*
*Ў кабіну зноўку папрашуся.*

*Прыеду, стану сам не свой*
*Каля былой бацькоўскай хаты...*
*Паміж радзімаю і мной*
*Звініць сталёвы нерв напяты.*

### Бацькавы гадзіннік

*Калі б і што я ні шукаў*
*У той шуфлядзе патаемнай,*
*Заўсёды ў рукі мне трапляў*
*Гадзіннік бацькавы кішэнны.*

*І зноў сябе я дакараў:*
*Чаму яго ў час развітальны*
*Ў кішэню бацьку не паклаў*
*У рэйс апошні, самы дальні?*

*Каб вёў па графіку цягнік*
*Да пункта з назваю «Канечны».*
*Хаця... Навошта той падлік*
*Хвілін, гадзін, калі ТАМ — вечнасць.*

*Адстаў ад часу на шмат год,*
*Нібы замёр у ціхай скрусе...*
*Ды раптам стрэлак карагод*
*Забегаў, захадзіў па крузе.*

*Завёўся сходу! Акурат*
*Такі патрэбны машыністу.*
*Буйны, выразны цыферблат*
*Са шклом-слюдой празрыста-чыстым.*

*І мне б такі у самы раз:*
*Псавацца зрок пачаў страшэнна...*
*Бяру з сабой яго штораз,*
*Нашу, як бацька, — у кішэні.*

*Жыву і крочу з ім у такт —*
*Ён і цяпер ідзе дакладна.*
*Адлічвае сваё «цік-так»*
*Так мілагучна, так прывабна.*

*І ўсё ж бывае, што парой,*
*У задуменнасці глыбокай,*
*Спытаю раптам: «Дружа мой,*
*А мне да вечнасці — далёка?»*

# Віктар КУНЦЭВІЧ

# Сашка Барада

## *Апавяданне*



Ноччу Сашка Барада прачнуўся ад грукату і рову аўтамашыны, якая прамчала пад вокнамі барака. Хацелася піць. Ён устаў з ложка, запаліў святло. Прагна прыпаў да рыльца пластыкавай бутэлькі. Адсунуў фіранку і пачаў глядзець праз шыбу. У начной цемры ледзьве бачыліся абрысы будынка, які ўзводзіўся, як казалі людзі, нейкім французам пад станцыю тэхнічнага абслугоўвання аўтамабіляў. А невысокія горбы тратуарнай пліткі нагадвалі копы сена. Сашка ўжо ведаў, колькі крокаў ад бліжэйшай горбы да парога ягонага пакоя. Ён ужо даўно надумаў дачакацца цёмнай дажджлівай ночы і перанесці па колькі штук плітак з кожнага груда ў сваё жыллё. А потым, склаўшы яе ў скрыні ці мяхі, прадаць аўтааматарам-дачнікам.

Свой пакой у бараку Сашка называў кватэрай. І, мусіць, правільна, бо ацяпляўся пакой стацыянарна, меўся і маленькі прыхожы пакойчык з прыбіральняй. З аплатай жылля ў Сашкі была вялікая праблема: два гады ён так званыя «жыроўкі» проста выкідваў, пры гэтым разумеючы, што і яго самаго могуць выкінуць з кватэры на сметнік жыцця. А была калісьці ў Сашкі Барады… не, тады яго называлі Аляксандрам Аршаўскім, — сапраўдная ўтульная кватэра са зручнасцямі і амаль у цэнтры горада. Былі і жонка з дачкой, і неблагая праца. На грузавічку развозіў Аляксандр хлеб па крамах. Меў добрую зарплату, бясплатны хлеб і булачкі для сям'і. Можна было пры жаданні прыхапіць з хлебазавода лішні латок і прадаць знаёмым. «Левыя» грошы і паламалі Сашкава жыццё. Аднойчы восеньскім ранкам «даішнік», які праверыў дакументы і груз, уважліва ўгледзеўся ў твар Сашкі, спытаўся: «Скажыце, вадзіцель, а вы, напэўна, учора ўжывалі спіртное?»

— Ды як можна? Мне праца не дазваляе, — упэўнена адказаў Сашка.

— І ўсё ж праверым, — прамовіў міліцыянер.

Тады пазбавілі Сашку вадзіцельскага пасведчання. І той запіў па-сапраўднаму. Жонка з'ехала на радзіму ў Крычаў. А Сашка застаўся адзін у двухпакаёвай кватэры. І адразу паспакайнеў, аціх. Нават кінуў піць і ўладкаваўся на працу. Нават збіраўся ехаць да цешчы, прасіць у жонкі прабачэння. Заставалася толькі дачакацца зарплаты. Дачакаўся. І зноў абрынуўся ў чарговы запой. Цяпер ужо і не ўспомніць, як і калі пазнаёміўся з таксістам па імені Лявон. Высокі ўсмешлівы прыгажун мог у любы час ночы і дня даставіць па тэлефонным званку Сашкі выпіўку і закусь. А калі ў выпівохі скончыліся грошы, прапанаваў такі варыянт: «Я табе пазычаю — ты пішаш распіску, а грошы аддасі, як заробіш». Праз колькі часу Лявон адмовіўся прывозіць Сашку гарэлку і ежу. А калі той працверазеў, патрос перад носам стосам распісак і назваў суму, ад якой у Сашкі пацямнела ў вачах. Справа скончылася судом. У выніку Сашка апынуўся ў бараку на ўскраіне горада. Вось тады Аляксандр Аршаўскі стаў Сашкам Барадой, бо з-за п'янак яму не было калі галіцца дый не было чым. Праўда, барада пасавала яму. Дробны і крыху прадаўгаваты твар Сашкі дзякуючы барадзе пакруглеў.

Сашка няспешна апрануўся, пстрыкнуў выключальнікам і выйшаў на ганак. Колькі хвілін ён з задавальненнем удыхаў свежае, настоенае водарам садовых пладоў, прахалоднае паветра. Быў канец жніўня, і прырода бралася ўжо на восень. Сашка прыкурыў. Ён ніколі не лічыў сябе злодзеем дый не краў. Ці ж можна лічыць крадзяжом укінуты ў грузавік лішні латок хлеба пры пагрузцы? Дый укідвалі яго грузчыкі пасяброўску. І яны, і ён ведалі, што дзяржаўнае — не сваё. У дзяржавы часам шмат чаго прападае-выкідваецца. І латок хлеба — гэта кропля.

Сашка кінуў недакурак у траву, потым перайшоў дарогу, набраў з горбы колькі плітак і хуценька занёс у свой калідор. Разоў дзесяць схадзіў Сашка па плітку, а калі клаў у стос чарговую порцыю, з-за хмары вылез месяц, быццам прасачыў: што ж там чалавек робіць каля дарогі. «Згінь, прашу цябе…» — падумаў Сашка. Месяц нібыта пачуў яго і схаваўся. Яшчэ з дзясятак разоў хадзіў Сашка па плітку, а месяц нахабна выскокваў з-за хмар і зноў хутка хаваўся. Але спаў Сашка ў гэтую ноч вельмі чуйна і трывожна.

Калі Сашка прачнуўся і ўслухаўся, то зразумеў, што хтосьці настойліва грукаў пачаргова то ў акно, то ў дзверы. Ён устаў, адхіліў штору і ўбачыў незнаёмага мужчыну. Той махнуў рукой — маўляў, выходзь. Сашка адшчоўкнуў замок і пхнуў дзверы. Незнаёмец хутка схапіў Сашку за рукаў швэдара і тузануў да сябе. Хударлявы Сашка, як трэска, падхопленая ветрам, зляцеў з ганка і ледзьве не зарыўся носам у крапіву — і зарыўся б, калі б дзяцюк не ўтрымаў за рукаво. У другой руцэ ў незнаёмца была гумовая палка. Ён ёю раз і другі пераццяў Сашку па спіне. Боль апёк спіну, і Сашка ўпаў на калені, глуха застагнаў. А незнаёмец зазірнуў у калідор, згледзеў плітку і злосна пасміхнуўся. Потым ён сеў на ганак, дастаў з кішэні пачак цыгарэт, закурыў.

— Дай закурыць, — папрасіў, як прастагнаў, Сашка.

— Бач ты яго… — хмыкнуў дзяцюк, але цыгарэту падаў. Крыху памарудзіў — падаў і запальнічку. — Колькі табе гадоў? — спытаўся незнаёмец у Сашкі, які ўжо ўстаў з каленяў і сядзеў на кукішках.

— Пяцьдзясят адзін.

— Паўвека пражыў, а розуму як у курыцы… Што, так да смерці і будзеш красці?.. Карацей, так, — мужчына ўзняўся з ганка. — Да васьмі яшчэ больш за гадзіну. Мяркую, табе хопіць часу, каб плітку пакласці на месца. А не паспееш — прыедзе начальства, тады яно хай думае, што з такім прыгажунчыкам рабіць.

...Урэшце плітка была вернута на месца і Сашка зноў прылёг на ложак. Боль у спіне аціх, знік у худым Сашкавым целе, але ж заныла і запякло на душы: «Чаму ёсць людзі, якім заўсягды шанцуе, і ім не трэба красці?»

Пад вокнамі барака пачуўся віск тармазоў, потым стукнула дзверца. У зашторaным акне барака мільгнуў цень. Сашка ўзняўся з ложка і ў шчыліну між штор убачыў чалавека, які тузаў да сябе ручку дзвярэй. Гэта быў даўні Сашкаў знаёмец Сяргей Абламейка, па мянушцы Аблом.

— Іду! — гучна азваўся Сашка, і Аблом перастаў тузаць дзверы. Зайшоў у пакой, зыркнуў на Сашку выпуклымі вачыма і спытаўся: «Па табе што, гусенічны трактар праехаў?»

— Амаль што, — адказаў Сашка і распавёў пра свае начныя і ранішнія прыгоды.

— Дурань ты, Сашка, — уволю насмяяўшыся, прамовіў Аблом. — Будоўля яшчэ не скончана, але на ёй ужо вісяць відэакамеры. Ахоўнік спаў усю ноч, а ранкам прагледзеў плёнку і знайшоў цябе, яшчэ цёпленькага... А за тое, што пераццяў дубінкай, ты дзякаваць яму павінен, бо калі б ён вызваў міліцыю... Ты ведаеш, колькі зараз каштуе квадратны метр тратуарнай пліткі? Лічы, што ты сухім выйшаў з вады.

— І то праўда, — крыва пасміхнуўся Сашка. — Гэта ўсё з таго, што выпіў я ўчора ладнага. Зайшоў да мяне чалавек з пляшкай. От галава мая і не знае, што рукі-ногі робяць... Можа б ты пахмяліў мяне? — Сашка з надзеяй зазірнуў у вочы Аблому.

— Дапамога мне патрэбна на дачы. Толькі ж ці зможаш ты сёння працаваць... — Аблом задумліва зашкроб пальцамі па лысай патыліцы.

— Ды мне пахмяліцца, і я буду як новенькі, — запэўніў Сашка.

— Тады паехалі, — хітнуў галавой Аблом.

Ужо колькі разоў даводзілася Сашку працаваць на дачы ў Аблома, і яго здзіўляла: якім жа запаслівым быў яе гаспадар. На ўчастку ў шыхтах ляжалі блокі, цэгла, пліты. Падстрэшшы ўсіх пабудоў былі ўкоптур забітыя свежай драўнінай. А каля сцен ляжалі металічныя і пластыкавыя трубы, арматура, вуглакі і швелеры. На ўскраіне сядзібы жаўцела вялікая куча пяску. «Яго навошта запасаць, — думаў Сашка. — Аблом жа працуе на самазвале і амаль штодзённа возіць пясок, вышукваючы па дарозе, каму б загнаць машыну-другую».

Вось і цяпер на дачы былі вельмі хутка.

— Сяргей, мне б гэта... палячыцца, — нагадаў пра сябе Сашка.

— А-а, я і забыўся. — Аблом схадзіў у дом, але ж вярнуўся з пустымі рукамі. Дастаў з кішэні грошы і падаў Сашку некалькі купюр: — Крама тут непадалёк, пайдзі і купі сабе пляшку і цыгарэты, а я тут матаблок пакуль наладжу.

Сашка схапіў грошы, і вось ужо фортка весніц бразнула за яго спінай. Дзе знаходзіцца крама, ён ведаў — заязджалі з Абломам мінулым летам. Там уразіла Сашку велічная постаць напаўразбуранай царквы. Пустыя прагалы аканіц і дзвярэй пазіралі на свет сумна і жудасна. «Праз іх, пэўна, душы адлятаюць да неба», — падумаў Сашка тады. Сёння ж ён заскочыў у краму, нават не зірнуўшы на царкву. Ля прылаўка была чарга.

Калі Сашка выйшаў з крамы, то яго тузануў вецер, а дождж ліў як з вядра. Сашка хацеў кінуцца назад у краму, але падумаў, што там ён не зможа пахмяліцца, і тут убачыў цёмны прагал дзвярэй царквы і пабег да яго.

Унутры было змрочна і ціха. Сашка сеў на выступ фундамента, адкаркаваў пляшку віна і прыпаў вуснамі да рыльца. Выпіў амаль усю. Задаволена адкінуўся спінай да сцяны і прыпаліў цыгарэту. Адчуў доўгачаканую палёгку і млявасць. Праз колькі часу недакурак выпаў з рукі, і Сашка заснуў.

Чалавек, апрануты ў чорнае, крануў яго за плячо. Сашка ўзняў галаву і ўбачыў твар састарэлага мужчыны. Яго лысая галава блішчала, нібыта німб.

— Хто ты? — спытаўся Сашка.

— Я святар гэтае царквы.

— Дзіўна, у цябе няма барады і вусоў і нават галава лысая.

— Што зробіш, валасы ўжо даўно не растуць на маім целе. А ты, сын мой, чаго прыйшоў? Пэўна, хочаш паспавядацца?

— Паспавядацца? — пытаннем на пытанне адказаў Сашка. — Я не ведаю, як гэта робіцца... Я ніколі ў жыцці не спавядаўся.

— Няма нічога складанага, — прамовіў святар. — Кажы пра ўсё дрэннае, што зрабіў у жыцці.

Сашка задумаўся. Рукой памацаў сваё падбароддзе, адчуў колкасць валасоў і падумаў, што калі ён адчувае колкасць барады, то ён не можа спаць. Значыць, напраўду трэба паспавядацца і зняць з душы цяжар дрэнных учынкаў.

— Подлы я чалавек, — ціха, але цвёрда сказаў Сашка. — Я ўтрыманец сваёй старэйшай сястры. Кожную суботу еду да яе па прадукты. І яна купляе мне іх. А ў яе яшчэ і муж — гэткі ж п'яніца, як і я. Я дзіўлюся, адкуль у яе столькі сіл і вытрымкі. Нядаўна мне прыйшла позва з суда. У мяне могуць забраць кватэру, бо вялікая запазычанасць за камунальныя паслугі. Сястра крычала, плакала, аднак пачала сплочваць мой доўг. Хаця мая цяперашняя кватэра так — халупа... Сапраўдную я прапіў, як і дачку з жонкай... прапіў. Мне б пайсці працаваць, але ж хто мяне возьме? Подлы я чалавек...

— Добра, што ты гэта ўразумеў, — сказаў стары. — Цяпер, калі ты выйдзеш з царквы, паглядзі на свет новым поглядам. Пастарайся ўбачыць тое, чаго ты не заўважаў раней. Напрыклад, як блішчыць лісток на дрэве апасля дажджу, як сушыць свае крыльцы на сонцы страказа, як... Што тут доўга казаць. Ідзі, чалавеча, і глядзі. Глядзі і думай. Думай і глядзі. Вось вазьмі на памяць пра нашу сустрэчу.

Святар працягнуў да Сашкі далонь. На ёй ляжаў маленькі бліскучы крыжык. З яго звісаў ланцужок. Сашка ўзяў з далоні святара крыжык, і святар знік. Сашка намацаў каля нагі пляшку і дапіў астатак віна. Спахапіўся: а дзе ж крыжык з ланцужком? Левая яго рука звісала каля нагі, пальцы ўглыбіліся ў векавы пыл. Сашка звёў іх у кулак, узняў руку і развёў. Пасыпаўся пыл, а на далоні застаўся счарнелы нацельны крыжык. Ланцужка не было. Меўся толькі астатак гнілой вяровачкі. «Вось дзіва, — падумаў Сашка. — Пэўна, я ўсё-такі спаў. А можа, не...» Ён устаў з падмурка, агледзеў памяшканне царквы. Паўсюль валяліся кавалкі цэглы, дробнага друзу, шкла.

— Гэй, бацюшка, дзе ты?! — гукнуў Сашка.

— Ты, ты, ты, ты… — загалёкала, залунала рэха.

Прагаліна дзвярэй зазыўна ззяла сонечным святлом, і Сашка прайшоў праз яе. Ён ішоў па вясковай вуліцы, абыходзячы паваленыя дрэвы, бітыя лісты шыферу, асцярожна пераступіў цераз электрычны дрот, які вужакай перакінуўся цераз дарогу. «Была навальніца», — падумаў Сашка. Міма катэджа Аблома ён прайшоў павольней, зазіраючы за высокі плот. Усе дрэвы былі цэлыя, а дах катэджа велічна ўздымаўся над імі нібыта жадаючы дакрануцца сваімі вострымі вугламі да аблачын на небе. Сашка вырашыў не вяртацца да Аблома, а пайсці дамоў.

Гадзіны за паўтары дабраўся Сашка да свайго дома. Лёг у ложак і заснуў хутка і моцна. Толькі раніцою прачнуўся Сашка Барада. Не сам прачнуўся: стукаўся сусед Ціт. Побач з ім стаяла каламажка на чатырох маленькіх колах, а на ёй ляжаў мех з пустымі бутэлькамі.

— Збірай пляшкі па хаце, — шапялявіў бяззубым ротам Ціт. — Я дамовіўся з крамшчыцай Ларысай — прыме, праўда, шэльма, свой працэнт, канечне ж, адлічыць…

Сашка смачна пазяхнуў, яму на момант стала шкада рэшты сну, які ён сніў і ў якім, атрымаўшы заробак, аддаў яго сястры. І тая была такая вясёлая і шчаслівая.

«Э-эх, каб не Ціт, што б там было далей?» — падумаў Сашка.

А Ціт чакаў, пераступаючы з нагі на нагу, і Сашка, хутка апрануўшыся, стаў скідваць у мех пляшкі, якія сіратліва стаялі паабапал сцяны. Дзень толькі пачынаўся...



*Малюнак Вікенція Пузанкевіча*

# Вялікія задачы маленькай перадачы

*РАДЫЁПРАГРАМЕ «ВЯЧЭРНЯЯ КАЗКА» — 50 ГАДОЎ*

**Галіна ШАБЛІНСКАЯ**

Праграма «Вячэрняя казка» Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё сёлета адзначае паўвекавы юбілей. За гэты час вырасла некалькі пакаленняў беларусаў, да якіх штовечар прыходзіла радыйная казка. Увогуле, казка — асаблівы жанр, у якім зашыфраваны код мудрасці і філасофіі цэлага народа, яго ментальнасці і прыгажосці. У нашым выпадку літаратурны жанр набывае іншае аблічча — аўдыё, дзякуючы голасу выканаўцы, гукавым шумам і музыцы.

Год эфірнага нараджэння «Вячэрняй казкі» — 1963, месца — аддзел літаратурна-музычных перадач Рэдакцыі вяшчання для дзяцей і юнацтва Беларускага радыё. Крыху пазней яе галоўнай дзеючай асобай і адным з любімых радыёгерояў маленькіх слухачоў стаў Баюн Калыханавіч, лісты якому пісалі дзеці з усіх куткоў Беларусі. З цягам часу фармат праграмы мяняўся, узнікалі новыя ідэі і, адпаведна, іншыя казачныя вядучыя, напрыклад, Стары Грамафончык у бліскучым выкананні народнага артыста Беларусі Віктара Манаева. Аднак задача ў творчай групы заставалася ранейшай — дарыць хлопчыкам і дзяўчынкам эфірную сустрэчу з добрай казкай. У праграме можна пачуць самыя розныя казкі: беларускія і народаў свету, традыцыйныя і сучасныя аўтарскія. Адзіная ўмова: яны павінны быць цікавымі і, вядома ж, гучаць па-беларуску.

«Вячэрнюю казку» можна без перабольшання назваць брэндам Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё. За ўсю эфірную гісторыю над ёй працавала шмат вядомых артыстаў, рэжысёраў, пісьменнікаў, журналістаў, гукарэжысёраў, кампазітараў. Праграма заўсёды была інтэрактыўнай — на яе прыходзіла столькі цікавых лістоў і цудоўных дзіцячых малюнкаў! Пісьмы падкрэсліваюць сваёй непасрэднасцю, адкрытасцю: «Твае казкі, дзядуля Баюн, — напісала адна дзяўчынка, — слухае разам са мной і шэры каток, які жыве з нядаўняга часу з намі. Мы з мамай знайшлі яго ў лесе. Узялі да сябе. Я паю яго малачком. Калі б ты ведаў, які ён прыгожы: шэранькі і толькі хвосцік белы, ты б абавязкова пасябраваў з ім».

За час эфіру «Вячэрняй казкі» створана ўнікальная фондавая база, дзякуючы якой мы і сёння можам пачуць галасы знакамітых майстроў беларускай тэатральнай школы. Захаваліся адны з першых выпускаў праграмы, напрыклад, за 13 мая 1963 года, выканаўца — народны артыст СССР Глеб Глебаў. Спецыяльна для гэтага праекта было напісана некалькі песень-«Калыханак» кампазітарамі Л. Захлеўным, Д. Яўтуховічам, Э. Зарыцкім разам з паэтамі Л. Пранчаком, В. Жуковічам ды іншымі. У свой час я таксама прайшла школу «Вячэрняй казкі». Яна была адной з праграм, з якіх некалі пачыналася мая радыйная біяграфія.

«Казка, што ў займальнай, запамінальнай, вобразнай форме дае асновы маралі дзецям, якія яшчэ не дараслі да «дарослай» літаратуры, з'яўляецца дзівосным сродкам выхавання», — так акрэсліў значэнне казкі амаль стагоддзе таму вядомы казачнік Павел Бажоў. Вялікія задачы маленькай перадачы, якая штодня дорыць дзецям вячэрнюю казку на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё, засталіся і сёння, у стагоддзі XXI.

Да юбілею праграмы быў абвешчаны радыёконкурс «Мой любімы казачны герой». На нашу радасць, адгукнулася шмат слухачоў. Іх малюнкі, выкананыя фарбамі, алоўкамі, фламастарамі, можна лічыць мастацкімі аўтографамі для любімай перадачы. Па выніках конкурсу была падрыхтавана цудоўная выстаўка, якая ўпрыгожыла Вялікую студыю Дома радыё, дзе адбылося юбілейнае свята «Вячэрняя казка — 50 эфірных гадоў». У ім узялі ўдзел стваральнікі праграмы розных пакаленняў, актыўныя слухачы, вядомыя пісьменнікі,



Дзіцячы хор Белтэлерадыёкампаніі віншуе «Вячэрнюю казку».



Артыст Алег Вінярскі і ўдзельнікі радыёконкурсу «Мой любімы казачны герой».

артысты, лаўрэаты радыёконкурсу «Маладыя таленты Беларусі», дзіцячы хор Белтэлерадыёкампаніі.

Я думаю, удзельнікі юбілейнай імпрэзы адкрыюць для чытачоў «ЛіМа» хаця б некаторыя «казачныя радыёсакрэты».

**Антон Васюкевіч, галоўны дырэктар Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё:**

— Гэта асаблівая падзея не толькі для нашага канала, для Беларускага радыё, але і для ўсёй Белтэлерадыёкампаніі, я нават магу сказаць, што гэта падзея і ў жыцці краіны таксама. Няма больш такой радыёпраграмы, якая б святкавала 50-годдзе з дня выхаду ў эфір. У гэтым — наша ўнікальнасць і асаблівасць, у гэтым — гісторыя радыё. У сучасны век імклівых тэхналогій адбываюцца эфірныя змены, але «Вячэрняя казка» захоўваецца, каб штовечар дарыць маленькім слухачам цёплыя хвіліны, каб іх сны былі добрымі і каляровымі.

**Таіса Жумар, першы рэдактар радыёпраграмы «Вячэрняя казка», былы галоўны рэдактар Рэдакцыі вяшчання для дзяцей і юнацтва Беларускага радыё:**

— Праграма «Вячэрняя казка» адразу стала вельмі папулярнай. Тым больш што з'явіўся радыёгерой — Баюн Калыханавіч, вобраз, народжаны з беларускіх народных казак. Ён шмат вандраваў па свеце і прыносіў казкі, якія вучылі дабру, справядлівасці, вынаходлівасці — самым лепшым якасцям. А яшчэ Баюн Калыханавіч абавязкова даваў дзецям заданні — расказаць пра свае справы, сяброў, намаляваць тое, што яны пачулі ў казцы. І ў нас у рэдакцыі ўсе сцены былі завешаны найцікавейшымі дзіцячымі малюнкамі і лістамі.

Праз нейкі час мы расказалі пра сваю «Вячэрнюю казку» ў часопісе «Радыё і тэлебачанне» (друкаваны орган Міжнароднай арганізацыі Радыёвяшчання і Тэлебачання), які выходзіў у Празе. Там даведаліся пра нашага Баюна Калыханавіча і паведамілі нам, што ў іх таксама з'явіўся Бай Баін. Казка мае мудрыя крылы, яна спалучае фантастыку з сённяшнім днём, дзякуючы ёй дзіця вучыцца бачыць самае добрае і прыгожае, — тое, што яму будзе дапамагаць у дарослым жыцці. І такіх прыкладаў сёння можна згадаць вельмі шмат, таму што за дзесяцігоддзі эфірнага жыцця «Вячэрнюю казку» чулі нават не тысячы, а мільёны слухачоў.

**Зінаіда Паўлоўская, рэжысёр:**

— Вось вы не паверыце, а трэба было так арганізаваць працэс запісу, каб казка гучала ў эфіры 9 хвілін і 42 — 43 секунды, а нават і крышку меней. Але больш — нельга. А артыст — ён жа тэмпераментны, у яго свае эмоцыі, сваё адчуванне матэрыялу, і ты пачынаеш падказваць яму, дзе трэба падцягнуць, а дзе дабавіць рытму, удакладняеш, а як ён ставіцца да гэтага вобраза, і г. д. Працэс запісу праграмы — вельмі цікавы. І кожны раз помніш, што гэта не тэатр, у нас няма візуальнага рада. Нас толькі чуюць. І каб гэта, як цяпер кажуць, «зачапіла», каб энергетыка перадалася, — патрэбны найперш вялікі акцёрскі талент. У нас былі выдатныя выканаўцы: Саша Уладамірскі, Юра Авер'янаў, я яшчэ помню народных артыстаў СССР Лідзію Ржэцкую, Барыса Платонава, Стэфанію Станюту — гэта класіка акцёрская выканання радыёказкі. Казкі, якія былі запісаныя з імі і іншымі выдатнымі артыстамі, знаходзяцца цяпер у фондах Беларускага радыё, і гэта цудоўна!

**Марыя Захарэвіч, народная артыстка Беларусі:**

— Казка вядзе нас у цудоўны свет нашага дзяцінства. Кожная маці ўспамінае тыя хвіліны, калі расказвала сваёй дачушцы ці сыночку любімую казку. І кожнае дзіця помніць ласкавыя вочы матулі, якая вучыла яго праз казку разумець добрае і дрэннае ў жыцці. А якая асалода назіраць за дзецьмі, калі яны глядзяць казку ў тэатры, як жыва рэагуюць, ловяць кожнае слова і падказваюць свайму любімаму герою, каб ён верыў ці не верыў злому персанажу. Гэты іх хор галасоў дорага каштуе. І як павінны старацца іграць акцёры, каб не сфальшывіць, быць праўдзівымі. Інакш не пачуеш шчырай рэакцыі дзетак.

Калі прыходзіш на радыё на запіс «Вячэрняй казкі», заўсёды думаеш пра гэта. Тым больш што толькі голасам ты павінен данесці сэнс і сюжэт. А лішні найгрыш, акцёрскае перабольшванне ў эфіры адчуваюцца яшчэ мацней. Заўсёды хочацца, каб нашы маленькія слухачы з нецярпеннем чакалі новых казак і новых цудаў, якія мы ствараем для іх усе разам.

**Анатоль Бутэвіч, пісьменнік:**

— 50 гадоў «Вячэрняй казцы» — вы ўяўляеце, колькі пісьменнікаў за гэты час стварала свае казкі дзеля таго, каб іх маглі пачуць радыёслухачы?! Усе лічылі за гонар, каб казка прагучала на Беларускім радыё. Я сам некалі захапляўся казачным, паэтычным, песенным мастацкім словам, якое гучала з дзіўнай скрыначкі-прыёмніка. Яно далучала мяне да вялікага свету беларускай мовы. Я пачынаў яе разумець, шанаваць і праз беларускую казку таксама. Думаю, можа, і гэта дало мне магчымасць самому пасля далучыцца да напісання казак.

Прайшоўшы праз «Вячэрнюю казку», напэўна, пісьменнік можа сказаць, што ён адбыўся. Калі яго казка прагучала ў «Вячэрняй казцы» па Беларускім радыё, значыць, знак якасці гэтаму твору можна даваць смела.

**Ларыса Гаршунова, гукарэжысёр:**

— Больш як 20 гадоў мне давялося запісваць «Вячэрнюю казку». Трэба абавязкова ўлічваць асаблівасць слухацкай аўдыторыі — гэта маленькія дзеці. Таму шукаеш для афармлення праграмы адпаведны музычны матэрыял, песні-калыханкі, забаўляльныя вершы. У студыі збіраецца калектыў аднадумцаў, якім хочацца падараваць дзецям свята казкі. Мы спрабавалі рабіць розныя пастановачныя формы. Напрыклад, казка гучала як міні-спектакль, з некалькімі выканаўцамі. Гэта складана, таму што хронаметраж невялікі, трэба ўкласціся ў 10 хвілін. Пісалі двухчастковыя казкі і нават казачныя цыклы. У запісах «Вячэрняй казкі» не раз бралі ўдзел і самі дзеці. Гэта заўсёды стварала выдатную эмацыянальную атмасферу.

**Васіль Жуковіч, пісьменнік:**

— Казка павінна зачароўваць тых, хто яе слухае, цікавым сюжэтам і незвычайнымі героямі. Казка павінна зачароўваць нашай роднай мілагучнай моваю і галасамі выканаўцаў-прафесіяналаў, а таксама — народным талентам ці талентам асобнага аўтара, які прыдумаў незвычайную чароўную казку. Усё гэта ёсць у нашай юбілярцы — «Вячэрняй казкі». Яна і чаруе, і здзіўляе, і выхоўвае сваіх маленькіх слухачоў, ненавязліва, у вобразнай форме дае сапраўдныя ўрокі жыцця. Як сказаў вялікі паэт: «Сказка — ложь, да в ней — намёк, добрым молодцам — урок…»

**Уладзімір Рагаўцоў, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь:**

— За што мы любім казкі? За тое, што ў іх заўсёды перамагае дабро. Я жадаю нашай любімай перадачы даўгалецця. Не — вечнасці. Таму што вечна будуць нараджацца дзеці, вечна маці кожны вечар будуць калыхаць сваіх дзетак і класці іх спаць. І хай вечна гучыць у эфіры «Вячэрняя казка» на роднай беларускай мове!

# Вяселле ў Руклях... з Караткевічам

**Анатоль ШАБЕКА**

Аднойчы ў маёй кватэры зазвінеў тэлефон. Незнаёмы мужчына назваў сябе:

— Эдуард Навагонскі, — і пасля невялікай паўзы працягнуў, — вы з'яўляецеся суаўтарам песні пра наш горад, я хачу стварыць відэаверсію на гэтую музычную кампазіцыю. Сцэнарыем кліпа можа стаць тэкст вашай песні «Горад дзяцінства». Да таго ж я вам прапаную сыграць у ім самога сябе. Запіс правядзём на вакзале, затым на беразе Дняпра, пасля каля Аршыцы і каля крыніцы.

Кліп знялі без асаблівых праблем, а пасля яго прагляду ў нас завязалася гутарка. І калі ў сваёй размове закранулі творчасць Уладзіміра Караткевіча, Эдуард падзяліўся планамі:

— Хачу зняць фільм пра гэтага незвычайнага чалавека і вось шукаю людзей, якія ведалі Караткевіча асабіста.

А паколькі я вучыўся ў школе, дзе працаваў настаўнікам Караткевіч, і люблю яго творчасць, то з вялікім задавальненнем пагадзіўся дапамагчы. Цікавы варыянт прапанавала мая жонка. Аказалася, што ў жонкі стрыечнага брата Ларысы Шынкевіч, якую я добра ведаю, яшчэ жывая маці. Жанчына старая, ёй дзевяноста гадоў, але яна добра памятае сям'ю Караткевічаў і Валодзю ў дзіцячым узросце. Я звязаўся з Ларысай па тэлефоне. Яна пацвердзіла гэтую інфармацыю. Мы хуценька вырашылі арганізацыйныя пытанні і ў першую суботу пасля дамоўленасці, узброіўшыся тэлекамерай, завіталі да Соф'і Васільеўны Сільвановіч.

У хаце нас цёпла сустрэлі Ларыса Дзмітрыеўна і яе маці. Пачаставалі смачнай травяной гарбатай, знікла напружанасць першай сустрэчы. Соф'я Васільеўна спачатку вельмі хвалявалася перад камерай. А потым, глыбока ўздыхнуўшы, быццам зірнула ў сваю маладосць і пачала расказваць. Я гэты аповед перадаю даслоўна.

«Валодзю я памятаю з таго часу, калі пачала прыязджаць у горад да дзядзькі ў госці. Валодзя быў яшчэ маленькі, але ўжо такі кемлівы, вельмі добры, фантазёр. Прыкладна гадоў з 5 ён пачаў чытаць. Яго маці, Надзея Васільеўна, забірала ў яго кнігі. Валодзя быў не па гадах разумным хлопчыкам.

Я родам з вёскі Руклі. Валодзя і яго сястра Наташа ездзілі да нас. Часта Караткевічы прыязджалі летам у вёску ўсёй сям'ёй. У поле, у лес мы хадзілі з дзядзькамі, яны былі старэйшыя за нас. Валодзя вельмі любіў быць там і заўсёды прапаноўваў раскласці касцёр. Калі вогнішча гарэла, хлопчык прыбягаў да маёй маці і прасіў: «Цёця Лёля, дайце бульбачкі, толькі добрай!» Мама выбірала ў кош бульбу, Валодзя прыносіў і сам закладваў бульбу ў вуглі.

Аднойчы прыбег і стаў гаварыць: «Цёця Лёля, у вас у рацэ столькі лебедзяў плавае, столькі многа!» А сам смяецца і тлумачыць: «Гэта жанчыны ў белых сарочках». І сапраўды, лета было вельмі спякотнае, і жанчыны прама-такі з сярпамі ішлі купацца, заходзілі ў ваду ў ільняных белых сарочках. Пазней пра гэта ён напісаў у кнізе «Каласы пад сярпом тваім».

Калі ў лесе бачыў зайца, то прыходзіў дадому, пісаў маленькі верш і жартаваў: «А я зайца, цёця Лёля, чуць за хвост не спаймаў!» А мама смяецца: «Не можа такога быць».

Амаль усё лета Валодзя быў у нас у Руклях. У нас такая вёска! Ёсць і рэчка, лугі, лес вакол! Валодзя сходзіць у лес, знойдзе што-небудзь цікавае, прынясе дадому. Аднойчы ён прынёс гняздо з яйкамі. На яго сталі сварыцца, а ён тлумачыць, што птушачка каля гнязда была мёртвая, а яйкі ўжо халодныя, таму ён і прынёс усім паказаць гняздо.

У той час у вёсцы было многа дзяцей, а летам прыязджалі яшчэ і ўнукі на канікулы, дык яны ўсе збіраліся вакол Валодзі. пасадзіць дзяцей на коле і расказвае, расказвае ім нешта… А яшчэ ракаў лавілі ў рэчцы. Ведаеце, як? У нашай Адроўцы былі вялікія камні, вось з-пад іх і цягалі. Многа было ракаў! Валодзя прынясе іх дамоў і просіць: «Цёця Лёля, зварыце нам ракаў у чыгунку і з крапівою, каб яны былі чырвоненькія!»

Ну, а потым была вайна, і ў нас усё разарвалася…

А яшчэ ўспамінаю, як у мяне быў шлюбны вечар. Мы ехалі на станцыю Смальяны з Коханава. За намі прыехаў адзін такі калгаснічак, конь дрэнненькі, а Валодзя ўсё падганяў каня. Надзея Васільеўна гаварыла:

«Не гані, Валодзечка, сынок!» А калі конь зусім стамляўся, Валодзя камандаваў нам: «З саней злазьце, хутчэй, хутчэй, і пяшэчкам, пяшэчкам!» Конь набіраў сілы без седакоў, і Валодзя зноў камандаваў: «Сядайце! Сядайце!» Так яны ўсёй сям'ёй да мяне прыязджалі на вяселле ў Руклі. Пагулялі добра, і Валодзя абяцаў напісаць пра вяселле кнігу.



Соф'я Васільеўна Сільвановіч з мужам.

…Пайшлі мы ад Соф'і Васільеўны з пачуццём выкананага абавязку. Асабліва быў задаволены Навагонскі. Свежы відэазапіс абяцаў добры пачатак пошукаў пра новыя старонкі з жыцця Уладзіміра Караткевіча. Некаторы час мы ішлі моўчкі, раптам Эдзік стаў паўтараць усяго адно слова:

— Руклі… Руклі… Руклі… Дзе я сустракаў гэтае слова, дзе? Прычым зусім нядаўна…

Мы прыселі на лаўку, каб падвесці вынікі сустрэчы. Эдзіка мучыла тая ж неадступная думка. І раптам ён рэзка пацягнуўся да сваёй сумкі, дастаў адтуль кнігу ў белым мяккім пераплёце, на вокладцы якой выдзяляўся сілуэт нашага вялікага земляка, а пад ім назва кнігі — «Свет вачыма Караткевіча», і стаў ліхаманкава яе гартаць.

— Вось, знайшоў! Глядзі, знайшоў! — і ён паднёс кнігу да маіх вачэй.

Пад першым малюнкам, дзе быў намаляваны конь, запрэжаны ў сані, на якіх сядзелі людзі, было напісана рукой Караткевіча «Гэта мы едзем у Руклі». На наступнай старонцы на малюнку вячэралі людзі за сталом, а чалавек, што гаварыў тост, безумоўна, быў сам пісьменнік.

— Ну, цяпер ты зразумеў, да каго яны едуць на кані і што святкуюць за гэтым сталом?

— Цяпер пачынаю разумець, — нясмела прызнаўся я, — здаецца, гэта сам Караткевіч едзе ў Руклі на вяселле да Соф'і Васільеўны. Гэта ж такая сувязь часоў! І гэтую нітку працягнем мы з табой.



«Вячэра ў Руклях». Малюнак У. Караткевіча.



«Гэта мы едзем у Руклі». Малюнак У. Караткевіча.

*Прэзентацыя*

# Наступны крок да супрацоўніцтва




У Мастацкай галерэі М. Савіцкага прайшла прэзентацыя Белай кнігі Савета Еўропы па міжкультурным дыялогу «Жыць разам у роўнай годнасці». Гэты надзвычай важны для ўсіх еўрапейскіх краін дакумент цяпер перакладзены на беларускую мову і пабачыў свет у нашай краіне. Кніга выдадзена Міністэрствам культуры Беларусі па дамоўленасці з Саветам Еўропы.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Як ва ўмовах інтэграцыі зрабіць так, каб культурная разнастайнасць стала крыніцай узаемаўзбагачэння народаў, а не апынулася глебай для канфліктаў? Як развіваць канструктыўны культурны дыялог паміж еўрапейскімі грамадствамі? На гэтыя і многія іншыя пытанні адказвае Белая кніга па міжкультурным дыялогу, прапануючы своеасаблівую мадэль кіравання культурнай разнастайнасцю. «Міжкультурны дыялог выконвае важную ролю, — пішуць складальнікі «Белай кнігі» ў прадмове да выдання, — Ён дазваляе нам пазбягаць падзелу па этнічным, рэлігійным, лінгвістычным або культурным прынцыпе. Ён дае магчымасць разам ісці наперад і на аснове ўніверсальных каштоўнасцей, што падзяляюцца ўсімі, знаходзіць канструктыўны і дэмакратычны падыход да розных ідэнтычнасцей».

Начальнік Упраўлення агульнаеўрапейскага супрацоўніцтва Міністэрства замежных спраў Беларусі Раман Раманоўскі падчас прэзентацыі гэтага знакавага выдання адзначыў:

— Гэтая кніга — наступны крок у развіцці канструктыўнага, узаемавыгаднага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Саветам Еўропы. Сімвалічна, што Еўрапейская культурная канвенцыя стала першым пагадненнем Савета Еўропы, да якога далучылася Беларусь. Менавіта культурная канвенцыя стала своеасаблівым трамплінам, які дазволіў Беларусі супрацоўнічаць з Саветам Еўропы і ў іншых напрамках.

У Беларусі віталі і спадара Ульрыха Буньеса, Спецыяльнага саветніка Генеральнага Сакратара Савета Еўропы па дэмакратыі, які браў непасрэдны ўдзел у стварэнні Белай кнігі. Падчас прэзентацыі прагучалі выступленні прадстаўнікоў Міністэрства культуры і адукацыі, а таксама праваслаўнай і каталіцкай царквы.

## На паліцы

# Дамашняе заданне: пазнаць Радзіму

Новая кніга вядомага дзіцячага пісьменніка, галоўнага рэдактара часопіса «Вясёлка» Уладзіміра Ліпскага невыпадкова носіць назву «Гомельская зямля — Радзіма твая і мая». Разам сабраны краязнаўчыя нарысы пра Гомель і пра кожны з раёнаў Гомельскай вобласці. Можна нават і так ахарактарызаваць агульную прастору зборніка: пад адной вокладкай змешчаны асобныя кніжачкі пра рэгіёны палескай старонкі.

Мікола БЕРЛЕЖ

Мяркуйце самі. Вось — нарыс «Акцябрскі — усім раёнам брацкі». Зразумела, аповед у ім ідзе пра Акцябрскі раён. Агульнаму тэксту папярэднічае разварот з картай і краявідамі, а таксама — з гербам раёна. Дарэчы, перагарнуўшы старонкі маляўнічага развароту, можна прачытаць, як асэнсоўвае герб аўтар кнігі: «Яшчэ з XV стагоддзя вядома сяло Рудыя Белкі. Інакш яно называлася — Рудабелка. А раённы цэнтр Акцябрскі якраз і ствараўся ў выніку аб'яднання трох паселішчаў — Рудабелкі, Рудні, Карпілаўкі. Відаць, у гербе гарадскога пасёлка Акцябрскі нездарма прысутнічаюць тры рудыя (чырвоныя) вавёркі. Яны — сімвал трох вёсак, якія былі ў аснове райцэнтра. Яны на гербе імклівыя, як бы лязуць, шырока распушыўшы свае хвасты. І ў гэтым падкрэсліваецца, што раён, маючы старажытную гісторыю, надзейна крочыць у будучыню. Развіваецца ў нагу з нашай явай». І далей у эсэ «Чырвоныя вавёркі», прысвечаным геральдычнаму сімвалу багатай на памяць старонкі, пісьменнік зазначае: «А ў другой палове герба, на чырвоным полі, — два даўнейшыя сімвалы. Княжацкая карона з дарагіх камянёў і з крыжыкам на самым версе падкрэслівае, што гэтыя палескія землі некалі належалі вялікакняжацкім уладарам. Гісторыкі засведчылі іх прозвішчы — Мікалай Радзівіл, яго сын Ян Радзівіл. Панавалі тут Гойцавічы, Зяновічы, Вішнявецкія, Палубінскія.

Жоўты кавалерскі крыж у цяперашнім гербе г. п. Акцябрскі — гэта частка радавога герба «Крыўда», якім карыстаўся некалі шляхецкі род Лапы. Адзін з іх, Дамінік Лапа, збудаваў тут свой маёнтак пад назвай Карпілаўка, адкрыў вучылішча, правёў вялікія меліярацыйныя работы. Каб мясцовыя балоты сталі ворнай зямлёй. Яго сын Аляксандр удзельнічаў у паўстанні, якім кіраваў Кастусь Каліноўскі…»

Гісторыя кожнага з раёнаў перадаецца Уладзімірам Ліпскім праз лаканічныя, рэльефныя эсэ. Прысвечаныя падзеям, асобам, славутым землякам, тапанімічным таямніцам у назве тых ці іншых мясцін. Падарожжа з пісьменнікам па Гомельшчыне носіць характар сімпатычнай вандроўкі, кожная сустрэча падчас якой




*Ліпскі У. С. Гомельская зямля — Радзіма твая і мая: Дзецям пра Гомельшчыну / Уладзімір Ліпскі; Віталь Дударэнка. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2013. — 256 с.*

адорвае самымі багатымі ўражаннямі, дапамагае не проста пашырыць уяўленне пра розныя куточкі, а прымушае да разваг пра вузлавыя этапы ў гісторыі Айчыны.

Многія старонкі своеасаблівага школьнага (так, найперш — адрасаванага малодшым школьнікам!) падручніка — старонкі памяці пра Вялікую Айчынную вайну. У. Ліпскі расказвае пра легендарнага партызана Ціхана Бумажкова, пра подзвіг братоў Крычаўцовых з вёскі Барок Гомельскага раёна (у адным танкавым экіпажы ваявалі і як героі загінулі ў адным баі, скіраваўшы сваю палаючую машыну на фашысцкі танк, Елісей, Міна і Канстанцін), пра спаленыя фашыстамі вёскі Ельшчыны, пра дзіцячы канцлагер у Чырвоным Беразе Жлобінскага раёна…

Кожны з краязнаўчых «партрэтаў» раёнаў завяршаюць «дамашнія заданні». Прыкладам, у дачыненні да расповеду пра Жыткавіцкі край заданні наступныя: 1. Што вы ведаеце пра Князь-возера? 2. Якую легенду чулі пра знакамітыя каменныя тураўскія крыжы, адзін з якіх быццам расце з зямлі? 3. Шмат знакамітых людзей нарадзіліся ў Жыткавіцкім раёне. Сярод іх — вядомы беларускі кампазітар. Імя яго Уладзімір. Разгадаўшы рэбус, даведаецеся і яго прозвішча. Далей намаляваны рэбус.

Спасціжэнне радзімазнаўства з уключэннем педагагічных прыёмаў — таксама навука. Навука любіць родны край. Дзеля засваення школьнікамі гэтай навукі і працуе Уладзімір Ліпскі, ствараючы кнігі рэгіянальнага краязнаўства і найперш адрасуючы іх юнаму чытачу.

# Дзіцячая памяць пра вайну

Мікола РАЎНАПОЛЬСКІ




*Дзеравянка Аляксандр Міхайлавіч. Шчыток. Вайна: акупацыя вачамі дзіцяці. — Мінск. Выд. В. Хурсік, 2012. — 96 с.*

Жанр «народных мемуараў» прарываецца ў айчынным кнігавыданні як жаданне звычайных, шараговых людзей, якія былі сведкамі, радавымі ўдзельнікамі значных сацыяльных, часам драматычных падзей. Вось і пра вайну цяпер падаюцца важнымі любыя сведчанні. Следам за мемуарамі военачальнікаў, партызанскіх камандзіраў, герояў Вялікай Айчыннай цяпер да чытача прыходзяць успаміны дзяцей, хто нарадзіўся ў пярэдадзень акупацыі. Але ж і ім ёсць часам што расказаць…

Як і, прыкладам, Аляксандру Дзеравянку, чыя кніга нарысаў, дакументальных аповедаў «Шчыток. Вайна: акупацыя вачамі дзіцяці» пабачыла свет напрыканцы мінулага года. Бацька аўтара загінуў на фронце. Маці засталася ўдавою з трыма дзецьмі. Пра гэта — у нарысе «Жалобны ліст». Дзіцячая псіхалогія была і такою: «Маці, памятаю, галасіла. Мяне агортвала шчымлівая туга, хоць я і не заліваўся горкімі слязьмі. Мне не верылася, што бацька загінуў назаўсёды, што дамоў ніколі не вернецца, як бы я яго ні чакаў. У глыбіні душы я нават ганарыўся сваёй адметнасцю: цікава, як гэта мы будзем жыць без бацькі?»

Шчыток — вёска-радзіміца Аляксандра Дзеравянкі. Знаходзіцца ў Круглянскім раёне Магілёўскай вобласці. На памежжы з Крупскім раёнам, які ўжо адносіцца да Міншчыны. Аўтар згадвае шчымлівыя эпізоды ўласнага жыцця ў вайну і ў першыя пасляваенныя гады. Нельга без хвалявання чытаць старонкі пра здзекі, гвалт, якія чынілі нямецка-фашысцкія захопнікі. Аляксандр Дзеравянка выцягвае з цянётаў памяці найбольш яскравыя, выразныя эпізоды. Часам здаецца, што некаторыя з іх настолькі ўражлівыя, што маглі б стаць асновай мастацкіх твораў. Дарэчы, Аляксандр Міхайлавіч — аўтар часопіса «Маладосць», газеты «Літаратура і мастацтва». У ранейшыя дзесяцігоддзі друкаваўся і ў рэспубліканскіх масавых выданнях.

…А што да гісторыі з'яўлення кнігі, пра якую ідзе размова і якая, між іншым, не першая ў творчай біяграфіі А. Дзеравянкі… То пра гэта — і ў прадмове ад выдаўца «Вайна ў Шчытку»: «Гэтыя апавяданні з'явіліся вынікам настойлівых просьбаў выдаўца. Аўтар доўга не згаджаўся брацца за пяро, не бачыў важкасці для грамадства ў сваіх дзіцячых успамінах. Але ж ці не з'яўляюцца такога кшталту замалёўкі апошнімі дакументальнымі сведчаннямі пра перажытае ў час Другой сусветнай вайны. Перажытае не толькі нейкай канкрэтнай сям'ёй, але і ўсім нашым беларускім народам.

Даўно няма вёскі Шчыток. Але дзякуючы Алесю Міхайлавічу яна жыве…»

Упэўнены: кніга А. Дзеравянкі падштурхне і іншых творчых людзей яго пакалення зазірнуць у даўно мінулыя часы.

## 100 фактаў пра «Вянок»

…існуе і іншы варыянт верша «Летапісец» з нізкі «Старая Беларусь».

…цыкл вершаў «Старая Беларусь» упершыню з'явіўся на старонках газеты «Наша Ніва» ў чэрвені 1912 года.

…напісанню верша «Слуцкія ткачыхі» папярэднічала знаёмства М. Багдановіча з калекцыяй старажытнасцей Івана Луцкевіча, у якой былі і паясы.

…змест верша «Слуцкія ткачыхі» не зусім адпавядае гістарычным рэаліям: паясы выраблялiся не прыгоннымі сялянамі, а вольнымі гараджанамі са Слуцка і навакольных мястэчак.




…існуе яшчэ адзін аўтарскі варыянт верша «Слуцкія ткачыхі».

…М. Багдановіч марыў напісаць гістарычны раман, прысвечаны Францыску Скарыну, яго ж узгадвае паэт у вершы «Безнадзейнасць».

…Падвей, узгаданы М. Багдановічам у вершы «Завіруха», — гэта міфалагічны вобраз, бог завірухі, які ўвасабляе нязломную сілу і мужнасць.

…верш «С. Е. Палуяну» ўпершыню быў надрукаваны ў газеце «Наша ніва» ў 1909 годзе з друкарскай памылкай: загаловак верша «С. Н-ну» замест «С. П-ну».

Падрыхтавала Ірына МЫШКАВЕЦ

## Маладзічок

# Вясёлка надзеі

*Летні эцюд*

Які дзень стаяла трапічная спякота, зусім не ўласцівая нашым сярэднім шыротам. Здавалася, быццам распаленае сонца мэтанакіравана выпальвае сваімі пякучымі прамянямі беларускую зямлю. Млявая трава больш не нагадвала смарагдавы дыван, а хутчэй была падобная да старога аблезлага палавіка з выдратаванымі ніткамі. Дрэвы панура апусцілі галіны-плечы, а скручанае сухім гарачым ветрам лісце матлялася, нібы камячаныя лапікі зацыраванай тканіны. Асфальт проста плавіўся пад нагамі і разносіў цяжкі задушлівы пах смалы. Людзі хаваліся па хатах, шукалі ратунку ў цені, у надзеі хоць трохі асвяжыцца ішлі да гарадскіх фантанаў. Тыя, хто адважваўся ў такую спякоту выехаць за горад, накіроўваліся да ракі, але і яе выратавальная прахалода не прыносіла доўгай свежасці. Ды і сама рака прыкметна памялела, раўчукі, што некалькі тыдняў таму весела звінелі і гулялі сонечнымі зайчыкамі, перасохлі. Няшчасныя жабы здранцвелі.

Здавалася, яшчэ трохі — і ўсё загіне. Людзі, прырода, жывёлы… Усе малілі нябёсы пра дождж і прахалоду. І неба пачула. Вецер раптам прыгнаў дажджавыя хмары. Незадаволены, што абудзілі, забурчаў гром. Яркія прыгажуні-маланкі паўсталі ва ўсім сваім бляску. І на засушаную спёкай зямлю абрынуліся ліўневыя струмені. Насустрач свежасці выгнулі свае галіны дрэвы, млявая трава ўвабрала жыватворную вільгаць і паднялася. Ад барабаннага дробу дажджу прачнуліся і радасна завялі свае песні жабы, ізноў ажылі і пабеглі раўчукі. Людзі не хаваліся ад цёплага летняга ліўня. Яны ўдзячна ўзнімалі твары да нябёсаў і, як у дзяцінстве, скакалі па лужынах. У жаданні ўбачыць усеагульную радасць з-за хмар зірнула сонца. Яно страціла былую агрэсію, цяпер глядзела ласкава і прыязна.

Лівень змяніўся прыемным грыбным дожджыкам, і на небе заблішчала вясёлка. Яна была падобная да велізарнага ахоўнага каўпака. Калі прыгледзецца, можна было ўбачыць, што неба пад карамыслам вясёлкі выглядае святлей і чысцей, лістота зяленей, фарбы ярчэй. Раптам падумалася: вось бы гэта вясёлка раскінулася над небам усёй Беларусі. Хай бы стала для ўсіх нас надзейным засцярогам, хай бы захоўвала ад бед і непрыемнасцей кожнага з нас, дарыла самыя светлыя надзеі. І першую з іх яна ўжо дала. Гэта была надзея на тое, што перыяд трапічнай спякоты і засухі прайшоў. І, гледзячы на яркую вясёлку, кожны, напэўна, спадзяваўся на штосьці добрае, светлае, шчырае…

Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ

# Любовь. От застоя до перестройки

**Денис МАРТИНОВИЧ**




В последнее время на успех литературных произведений во многом влияют их экранизации. Так случилось и с повестью Юрия Полякова **«Апофегей».** В июне этого года на телеканале «Россия — 1» прошла премьера одноимённого многосерийного фильма, снятого режиссёром Станиславом Митиным. В результате многие зрители обратились к литературному первоисточнику.

К писателю Юрию Полякову, теперешнему главному редактору «Литературной газеты», признание и слава пришли во время перестройки. Ещё в начале 1980-х годов он написал две повести: «ЧП районного масштаба» (о нравах, царивших в среде комсомольских вожаков) и «Сто дней до приказа» (о дедовщине в армии). Но положил их в стол, поскольку публикация в те годы была немыслима. С началом гласности повести появились на страницах журнала «Юность» и стали событием в советской литературе.

В 1989 году Поляков завершил работу над повестью «Апофегей». Её действие начинается в Москве в разгар застоя, в 1977 году. Главные герои, историки Надя Печерникова и Виктор Чистяков, учатся в аспирантуре. Они влюблены друг в друга и уже подали заявление в загс. Однако вскоре они расстаются. Чистякову, который делает партийную карьеру и даже меняет тему своей работы на политически верную, кажется, что Надя предала его, чтобы помешать карьере. Снова они встретятся уже во время перестройки. Их ребёнок, которого Надя воспитывает вместе с другим человеком, серьёзно болен. А единственная клиника, где могут помочь, находится в том районе, который возглавляет Чистяков, сам находящийся в опале.

Как пишет критик Дмитрий Черемнов, «Апофегей» «и сегодня не потерял актуальности, как часто бывает с талантливыми произведениями. Причина проста: небольшая ироничная повесть, которая смешно и поучительно рассказывала о любви двух молодых учёных и в духе эпохи зло высмеивала КПСС, на поверку оказалась настоящей масштабной эпопеей. Эпопеей о смене элит и поколений во властных структурах, о том, как уходили со своих постов старые партийные деятели <…> и на кого они оставляли страну».

# В мире животных

**Максим БАРЫШНИКОВ**




Вспоминая свои школьные и лицейские годы, могу честно сказать: я терпеть не мог биологию! Согласитесь, что может быть более скучным, чем изображение инфузории-туфельки или подробный рассказ о парнокопытных и непарнокопытных. Но всё дело в том, что школьные учебники часто пишут учёные, увы, не имеющие опыта работы в школе и не умеющие просто объяснить сложный материал. Разумеется, кому-то повезёт с учительницей, которая сможет доступно передать содержание параграфа. Другой попросит помощи у родителей или знакомых. Но иногда проще обратиться к популярной книге. Например, изданию «Живой мир», которое вышло в «Аванта+» при поддержке ООО «Харвест».

Эта книга — скорее галерея, где авторы текста (учёные-биологи, популяризаторы науки и одновременно фотографы) показывают читателю многообразие обитателей Земли, которых по-научному называют наземными позвоночными животными. И среди млекопитающих, и среди птиц, и среди рептилий, а также амфибий существует необыкновенное разнообразие, которым природа постоянно удивляет и даже поражает нас. Среди живых существ планеты немало в высшей степени экзотичных, причудливых, почти невероятных, нелепых созданий, изумляющих либо своим внешним видом, либо биологией, а нередко и тем и другим. Сами названия животных порой таят в себе массу неправдоподобного и забавного, в них зашифрована история открытий, ошибок, неудач и успехов учёных-биологов. На цветных плашках даётся справочная информация: где живёт то или иное племя животных, с кем и как оно связано родством, сколько в нём родов и видов. И конечно, перед читателем предстанет «картинная галерея» замечательных фотографий, сделанных известными фотографами-анималистами.

# Белеет парус одинокий




Вид скользящего по волнам белоснежного корабля вряд ли оставит кого-нибудь равнодушным. Парусник, несмотря на его техническую сложность, удивительно красив. Он являет собой великолепный пример гармоничного сочетания рациональности и экологической чистоты. Роль, которую ему выпало сыграть в развитии цивилизации, невозможно переоценить.

Но уже в середине XIX века стало понятно, что эпоха парусных судов в военно-морском флоте безвозвратно уходит в прошлое. Недаром во время Крымской войны парусники Российской империи практически не смогли ничего противопоставить паровым судам Англии и Франции. Парусные суда ушли в «гражданскую сферу», но постепенно и там почувствовали себя достаточно неуютно. Несколько десятилетий тому назад казалось, что эпоха парусных судов навсегда ушла в прошлое, а немногочисленные «ветераны» обречены доживать свой век в гаванях. Но вскоре ситуация кардинально изменилась. Одних привлекла к парусу экономическая выгода, других — экологическая чистота, третьих — эстетика и романтика. Началось строительство новых парусников: учебных, научно-исследовательских, пассажирских и грузовых. Энтузиасты стали восстанавливать старые корабли и делать копии судов прошлого. Так парусники стали частью современной жизни.

Самым красивым и знаменитым парусным кораблям посвящена книга Сергея Балакина **«Парусные корабли»**, которая вышла в «Аванта+» при поддержке ООО «Харвест». Она увлечёт тех, кто интересуется историей, влюблён в море и склонен к романтике. Читатели познакомятся с кораблями великих мореходов, на которых были совершены Великие географические открытия. Отдельный раздел посвящён судьбе кораблей, вошедших в историю. Это «Ваза», который затонул в день своего отплытия и уже в XX веке был поднят со дна, «Повелитель морей» Карла I Стюарта, «Великий Гарри» Генриха VIII и другие. Кроме того, небольшие главы посвящены национальному судостроению в Дании, России и Латинской Америке. В книге также приведены чертежи для любителей судомоделизма, благодаря которым каждый читатель «Парусных кораблей» сможет познакомиться с судостроением на практике.

**Данила АРТИМОВИЧ**

# «Идём на восток!»

**Данила АРТИМОВИЧ**

Стоит произнести «крестовые походы», как перед мысленным взором встают суровые мужественные рыцари, оставившие прекрасных дам и в едином порыве двинувшиеся на восток. Их цель — освобождение Иерусалима, который находился в руках «неверных». Возможно, это был один из последних массовых духовных всплесков, который помнит Европа. Чистота порыва, великая идея, готовность к самопожертвованию, отвага, благородство, героические подвиги во славу Христа, жажда подвигов и приключений да и — чего скрывать — обыкновенная жажда наживы отрывали этих отчаянных мужей от родных феодов и майоратов и бросали навстречу неизвестности.



Эту книгу даже в наше пресыщенное время можно смело назвать уникальной. Её автор, французский историк и общественный деятель Жозеф Франсуа Мишо, был современником Великой Французской революции и наполеоновских войн. Его «История Крестовых походов», написанная в начале XIX века, стала новаторским для своего времени явлением. До этого европейцы были знакомы лишь с хрониками и записками, которые оставили очевидцы тех событий. Однако архаичный язык, узость кругозора и отсутствие систематического изложения не могли удовлетворить публику. Мишо возвратил Европе гордость и память о Крестовых походах. Именно с его труда началось глубокое изучение наследия Средневековой Европы. Как отмечает автор предисловия В. Яськов, «будучи весьма серьёзным для своего времени и обстоятельным научным исследованием, сегодня эта книга больше похожа на эпический роман, чем на научную монографию. И именно в этом кроется её непреходящее достоинство».

Художником этой книги выступил великий французский иллюстратор Гюстав Доре, исполнивший грандиозную серию из 100 фантастических по красоте и тонкости исполнения гравюр. Издание впервые за 150 лет представляет читателю всю художественную серию, да ещё и в цвете!

# Из физики — в литературу

**Максим БАРЫШНИКОВ**




Биография Александра Иличевского достаточно необычна даже по литературным меркам. Уроженец Сумгаита, в 1993 году он закончил факультет общей и прикладной физики Московского физико-технического института по специальности «Теоретическая физика», занимался научными исследованиями в Израиле и Калифорнии и лишь в 1998-м вернулся в Москву. Ещё за границей он начал писать стихи, но признание получил как прозаик, автор романов «Матисс», «Перс», «Математик» и «Анархисты», которые вошли в тетралогию «Солдаты Апшеронского полка».

Как отмечал критик Евгений Белжеларский, «Иличевский де-факто пишет метароман — аналогичный набоковскому или достоевскому пятикнижию. Сквозных персонажей и сюжетов у него вроде нет, но есть объединяющий тип героя — задумчивый интеллигент, не вполне гуманитарий, скорее с научным складом ума и философическими наклонностями, который явно выпадает из контекста неприглядной, техногенной, жестокой, безвкусной (нужное подчеркнуть) современности. Но у всех этих героев есть какая-то убедительная внутренняя закваска, навык самостояния и самодостаточности. Им не требуется «значимое окружение», им не нужно «быть в ладу с веком». Они не гамлетовского типа, а скорее вольтеровского. Способны придумать себе мир таким, каким он нужен, и в нём не затеряться».

Отношение критиков к Иличевскому неоднозначное. По словам Андрея Степанова, перед нами «плотнейшее бунинское письмо, сгущённый бульон вещного мира, хищное, да ещё усиленное подзорной трубой зрение». А вот Сергей Беляков более осторожен: «Проза Иличевского соотносится с современной русской прозой как геометрия Лобачевского с геометрией Евклида». Впрочем, произведения автора давно получили признание литературной общественности. Например, за роман «Матисс» он был отмечен премией «Русский Букер» (2007), за «Перса» — «Большой книгой» (2010). Поэтому своё мнение об этом писателе каждый может сформулировать сам. Достаточно лишь открыть книгу.

# «Віцязь» едзе ў Давыд-Гарадок

На XXII міжнародным кінафоруме «Залаты віцязь» у Хабараўску ў намінацыі «Дэбют» перамагла беларуская стужка «Давыд-гарадоцкія каноны» па матывах аднайменнага твора Георгія Марчука. Аўтар сцэнарыя і рэжысёр фільма Аляксандра Шпартава, актрыса тэатра і кіно, не так даўно скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Фільм-лаўрэат — яе дэбют: дагэтуль у творчым активе было толькі некалькі знятых музычных кліпаў. Сапраўдны поспех! Гэта адзначалі ўсе аглядальнікі пасля прэзентацыі «Канонаў» у пачатку 2013 года ў Мінску і Давыд-Гарадку. Пра ўражанні падчас працы над фільмам, а таксама яго гучнага фестывальнага дэбюту гутарым з Аляксадрай Шпартавай.



**— Аляксандра, вельмі цікава, як наладжваліся стасункі з аўтарам, Георгіем Марчуком?**

— Вобраз аўтара ў творы не абавязкова павінен супадаць з рэальнай асобай. Ёсць аўтар і ёсць лірычны герой. Нават калі гэта аўтабіяграфічны твор. Аўтар літаратурнай асновы, Георгій Марчук, быў не супраць таго, каб герой, ад асобы якога вядзецца аповед, быў не падобны да яго. У маім фільме вобраз аўтара стварыў надзвычай таленавіты акцёр Уладзімір Грыцэўскі. Хаця фільм і дакументальны, ён здолеў зрабіць больш за начытку закадравага тэксту. Праца з ім стала для мяне вялікай радасцю і найкарыснай школай.

**— У друкаваных матэрыялах, якія выйшлі пасля прэзентацыі фільма, адзначаюцца «мудрыя ісціны», якія даводзіць аўтар літаратурнага тэксту і якія вы паспрабавалі данесці сродкамі кіно. Што гэта за «мудрыя ісціны»?**

— Ісціна не можа быць мудрай ці не мудрай. Яна — ісціна. Я не прэтэндую на тое, каб яе дэкларавкаць. Калі аўтар піша пра свае вытокі, гэта амаль заўсёды будзе лепшым у яго творчасці і гэта звычайна знаходзіць водгук і разуменне. Менавіта так адбылося і ў мяне з навеламі «Давыд-гарадоцкага канона». Я прачытала іх абсалютна выпадкова і зразумела: вось тое, што я хацела б здымаць. А «мудрасці» — яны ўсюды адны і тыя ж: жыць сумленна, разумець, што ёсць дабро і што — зло. Мудрасць давыдгарадокцаў — у іх стаўленні да веры, у тым, што яны цэняць тое, што маюць: сваю працу, свой кавалачак зямлі, свой спрадвечны промысел — вырошчванне кветак на насенне.

**— Праца над «Канонамі» і яе прызнанне паўплывала на вашы творчыя планы? Што бачыцца ў найбліжэйшай перспектыве?**

— Цяпер я працую над некалькімі праектамі. Ізноў-такі — як вольны рэжысёр. Праекты істотна адрозніваюцца і адзін ад аднаго, і ад таго, што зроблена: па жанры, па форме. Я ў пошуку, эксперыментую. У «самастойным плаванні» ёсць свае мінусы і плюсы. Мінусы — у тым, што востра не хапае сродкаў і стаіць праблема «прыстроіць» свой прадукт. Плюсы — няма жорсткіх тэрмінаў, ёсць магчымасць укласці ў праект столькі часу і сіл, колькі патрэбна, каб давесці яго да неабходнай кандыцыі, бо ўсё мае свой натуральны тэрмін даспявання. І яшчэ істотна, што ёсць магчымасць працаваць з людзьмі, з якімі ты на адной хвалі. Гэта дапамагае расці і развівацца.

**— Ваша творчая група носіць назву «ФІАльТа». Гэта адкуль?**

— Мы назвалі сябе «ФІАльТа» паводле нашых імёнаў. Філіп, мой брат, — піяніст, скончыў Маскоўскую дзяржаўную кансерваторыю імя П. І. Чайкоўскага. Акрамя таго, ён сам піша музыку. Ілья Бортнік (Дыянаў) — наш аператар, інжынер мантажу, вакаліст, саксафаніст. «Та» — Таццяна, мая маці. Яна таленавіты паэт, перакладчык і сцэнарыст. Гэта ядро, якое прыцягвае іншыя творчыя асобы. Віктар Кісцень — вядомы радыё- і тэлевядучы, дыпламаваны кампазітар і гукарэжысёр. Дзякуючы яму фільм мае гук найвышэйшай якасці. «Аль» — гэта я. У мяне некалькі творчых прафесій, якія вельмі дапамагаюць у такой няпростай справе, як аўтарскае кіно.

Склалася так, што нам камфортна працаваць разам. Нягледзячы на тое, што кожны мае і асабістыя, сольныя, праекты.

Гутарыла
**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Паэзія радка і кадра

Нядаўна адзначыў чарговы жыццёвы юбілей Уладзімір Мароз (нар. у 1953) — слынны беларускі драматург-кінадакументаліст, эсэіст, паэт. Віншаванні ад «ЛіМа» і — кароткі нарыс «жыцця і творчасці».



Разважаючы пра свой лёс і прызванне, у адной з новых кніг Уладзімір Вікенцьевіч піша: «...Стала зразумелым, чым так прываблівае гісторыя, што штурхае зразумець людзей, якія жылі шмат... стагоддзяў да нас. Разумеючы іх, мы разумеем сябе сённяшніх. А калі гаварыць канкрэтна аб Беларусі — лепш разумеем свой крыжовы шлях праз вякі і можам думаць пра накірунак яго далейшы. Бо нездарма сцвярджаюць, што без мінуўшчыны няма прышласці». За частым ужыткам гэтыя надзвычай глыбокія словы, здавалася б, іншы раз страчваюць сэнс, але як нельга больш пераканаўча гучаць з вуснаў чалавека, чый лёс і прызванне вылучыліся ў цеснай сувязі з мінуўшчынай, у адчуванні яе подыху паблізу сябе штодня ад самага нараджэння.

## НА ВАРЦЕ ДАЎНІНЫ

З месцамі нараджэння і выхавання яму пашанцавала: з'явіўшыся на свет у Косаве, кожнае лета гадаваўся з братам то ў Мікалаеўшчыне (дзявочае прозвішча маці — Міцкевіч), то ў Цякалаўшчыне — таксама недалёка ад Нясвіжа. «Суцэльныя знакі гісторыі» навокал — свядома ці падсвядома яны прывялі У. Мароза на архітэктурны факультэт: жыла мара самому стварaць адвечныя мясцічныя муры, падобныя да Косаўскіх, Ружанскіх, Нясвіжскіх… Скончыўшы «палітэх», працаваў колькі часу ў праектным інстытуце. А праз два гады паступіў у інстытут… Літаратурны — у Маскве. Крок, безумоўна, лагічны: гісторыя ў камені неаддзельная ад гісторыі ў слове. Гісторыя, увасобленая аўтарам у арыгінальным жанры кінаэсэ, які спалучае рысы гістарыяграфіі, дакументалістыкі і мастацкай літаратуры. Доўгі час працаваў рэдактарам Дзяржкіно БССР, з 2005 г. — вядучы рэдактар кінастудыі «Летапіс» («Беларусьфільм»).

Дакументальныя фільмы, знятыя паводле сцэнарыяў У. Мароза, прысвечаныя гісторыі і культуры Беларусі, яе выбітным асобам і слаўтым мясцінам. Гэта стужкі пра Кірылу Тураўскага, Льва Сапегу, Міколу Равенскага (Дзяржаўная прэмія 1984 г.), Сымона Буднага, Івана Мележа, Віктара Казько, Уладзіміра Караткевіча, таксама — пра Косава і Крэва, пра старажытны і сучасны Мінск. Усяго больш як 60 сцэнарыяў, у кожным — пошук сувязей і повязей пакаленняў. «Шмат аб'езджана, шмат пабачана, шмат асэнсавана». Як вынік — уласная гістарыясофская накіраванасць думкі, якая




стварае сімвалічны абрыс «Беларускага храма» і «Беларускага дома».

«Беларускі храм (дом)» — культурапаліталагічная канцэпцыя, згодна з якой Беларусь мусіць сімвалічна пазіцыяніраваць сябе хрысціянскай прасторай, адналькава ўтульнай для ўсіх канфесій. З гэтай мэтай Уладзімір Мароз прапануе: па-першае, стварыць Храм усіх канфесій у Мінску; па-другое, выдаць Энцыклапедыю духоўнага жыцця Беларусі; па-трэцяе, усталяваць на межах (на магістральных шляхах) сімвалічныя крыжы. «Крыж ля дарогі будзе прыветным знакам» — нібы ў старадаўняй праваслаўнай традыцыі.

Мы клапоцімся сёння пра «імідж» краіны. Сапраўды: ці можа быць больш годны і больш варты для Беларусі «імідж»?

## ЛІРЫЧНЫ АДГАЛОСАК

Асобнае рэчышча — паэзія знанага кінадраматурга. Першая паэтычная публікацыя адбылася яшчэ ў 1984 годзе — у калектыўным зборніку «Крыло». У 1993 г. — уласны зборнік «Голас» з вызначальным матывам «скрыжавання», «раздарожжа». Як і часцей за ўсё ў вершах аўтара, матыў — шматзначны, пад якім варта разумець і асабісты пачатак (раздарожжа «сярэдзіны жыцця»), і нацыянальна-гістарычны (згадка Купалавай «Маладой Беларусі» — сімвал яе «маладосці» і ў наш час). «Раздарожжа» — яшчэ і памежжа: працы / прастою, узнёсласці / спакою, дня / ночы: «Я люблю гэты час на памежжы, / З лямпай столь як утульнасць жытла. / Прывітаю цябе, вецтрык свежы, / Толькі жар ты не выдзьмі датла» («Пярэдадзень»).

«Маладая Беларусь» — не адзіная алюзія на Купалаву творчасць. Верш «Ідылічны матыў» сцісла ўвасабляе кардынальныя сэнсы паэмы «Яна і Я» — камерныя і гістарычныя, таксама як у класіка, пабудаваныя на сялянскасямейным падмурку:

*...Я за плугам хаджу,*
*Ты ля печы стаіш... <…>*
*Што стагоддзі, што час —*
*Гэта ўсё як спрадвек,*
*Можа толькі пад шыферам хата…*

Вершы зборніка, створаныя напярэдадні 1990-х, — больш аптымістычныя, а напісаныя крыху пазней носяць пераважна мінорны характар, вызначаючы дзесяцігоддзе як «талаку бязладных дзён». Зрэшты, нават яна ўяўляецца «дзяцінства прадвесцем»: крызіс вымагае выйсця. Зноў шматслойны матыў, які чытаецца ў прызме настрою паэта і гісторыі краіны.

Калі ў «Голасе» ўрбаністычная і сялянская плыні ўраўнаважаныя, то наступная паэтычная кніга аўтара («Хутаранская зорка», 2002) адметная сялянскім фонам і настроем — ці не таму, што «асфальт не дае засяроддзя — лагічную нітку ірве…» («Тралейбусны сум»)? Да таго ж, менавіта на вёсцы вастрэй адчуванне сувязі з мінулым:

*Уліцца ў святыя павевы,*
*Паданні сівой даўніны.*
*Ліцьвіны, русіны — усе вы*
*Сваёй Беларусі сыны.*

*Калі зразумеем нарэшце*
*Крыжовы свой шлях вось такі,*
*То стане апошнім прышэсце*
*Айчыны — ужо на вякі. («Дзяды»)*

*Я дастану са скарбніц, сваіх*
*невычэрпаных сховаў*
*Кнігі з пахам вякоў,*
*дзе бурштынпай крыніцай звініць*
*Беларускага княства*
*вяліка-літвінскага слова,*
*Каб яднання часоў не ірвалася*
*крэўная ніць.*
*(«Старажытнае слова»)*

«Хутаранская зорка» высвятляе не толькі надзённае, але й адвечнае, таму «Канстанта хутара» паўстае ні больш ні менш як канстантай быцця з уласцівым ёй рытмам чаргавання, а таксама зноў прысутным матывам «памежжа»:

*Хутар, счакай ты зімовую*
*сумную стынь,*
*Пойдзе парадкам і квецень*
*у сілу ўбярэцца.*
*Сонца паджывіць спрадвечную*
*крэўную плынь,*
*Радасць вяртання спатоліць*
*засмягае сэрца.*
*(«Самотны хутар»)*

Уладзіміру Марозу — толькі 60…

**Лея ХАШЫМБА**

*Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі*

# *Бібліятэчны сшытак*

**5 ліпеня 2013 г.**



# Пра этнографа і эканаміста

Выстаўка, прысвечаная вядомаму беларускаму гісторыку, этнографу і эканамісту Мітрафану Доўнар-Запольскаму, працуе ў чытальнай зале рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Большую частку свайго жыцця навуковец правёў па-за межамі Бацькаўшчыны. У 1926 г. ён быў вымушаны назаўсёды пакінуць Мінск, дзе працаваў усяго год, а яго творы былі надоўга выведзены з навуковага карыстання ў Беларусі. Пасля перыяду забыцця шматгранная навуковая спадчына вучонага еўрапейскага маштабу, які лічыцца «бацькам беларускай гістарыяграфіі», пачынае актыўна вывучацца. Расійскія, украінскія і беларускія навукоўцы прыкладаюць агульныя намаганні па даследаванні і папулярызацыі твораў М. Доўнар-Запольскага. Адлюстраваннем гэтага працэсу стаў сумесны праект ЦНБ імя Якуба Коласа, Музея гісторыі НАН Беларусі, Інстытута гісторыі НАН Беларусі, Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны і Санкт-Пецярбургскага філіяла Архіва Расійскай акадэміі навук.

У рамках праекта арганізавана выстаўка «Мітрафан Доўнар-Запольскі — даследчык гісторыі трох народаў», падрыхтаваная супрацоўнікамі ЦНБ, а таксама фотадакументальная экспазіцыя копій дакументаў з фондаў Санкт-Пецярбургскага філіяла Архіва Расійскай акадэміі навук, Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Украіны, Дзяржаўнага архіва горада Кіева, Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя У. І. Вярнадскага, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь і Цэнтральнага навуковага архіва НАН Беларусі. Прадстаўленыя на ёй матэрыялы раскрываюць малавядомыя старонкі жыцця і дзейнасці М. Доўнар-Запольскага. Многія з гэтых дакументаў былі прадстаўлены ўпершыню. У экспазіцыі — каля 100 дакументаў XVIII — XXI стст. з фондаў ЦНБ НАН Беларусі: працы М. Доўнар-Запольскага (кнігі, артыкулы, рэцэнзіі), літаратура пра яго жыццё і дзейнасць, экзэмпляры з асабістага кнігазбору навукоўца з аўтографамі і пячаткамі.

Працы вучонага прадстаўлены ў экспазіцыі, у асноўным, прыжыццёвымі выданнямі, якія адлюстроўваюць шырыню яго навуковых інтарэсаў: сярэднявечная гісторыя Расіі і Беларусі, працы па палітычнай эканоміі, гісторыі народнай гаспадаркі, па этнаграфіі, эканамічнай геаграфіі, фальклоры. Сярод ранніх публікацый маладога даследчыка — артыкулы, надрукаваныя ў часопісе «Этнографическое обозрение» (1890 — 1897), а таксама першыя манаграфіі: «Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия» (Кіеў, 1891), «Белорусское Полесье: сборник этнографических материалов. Вып. 1. Песни Пинчуков» (Кіеў, 1895).

На пачатку XX ст. М. Доўнар-Запольскі — вопытны паважаны даследчык. Гэты перыяд творчай біяграфіі аўтара прадстаўлены выданнямі кніг па тэмах дзвюх дысертацый: магістарскай — «Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах» (Кіеў, 1901) і доктарскай — «Очерки по организации Западно-русского крестьянства в XVI веке» (Кіеў, 1905).

З выданняў наступнага перыяду вылучаецца сціплая, але вельмі каштоўная брашура «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» (Гродна, 1919) — першая спроба навукова абгрунтавання гістарычнай заканамернасці дзяржаўнага самавызначэння беларускага народа. Дарэчы, палажэнні гэтага нарыса ў далейшым былі выкарыстаны для абвінавачвання вучонага ў нацыянал-дэмакратызме.

Прыцягвае ўвагу кніга, якая была выдадзена падчас знаходжання навукоўца ў Мінску, — «Народное хозяйство Белоруссии, 1861 — 1914 г.» (Мінск, 1926). Яна пабачыла свет, была ўхвалена гісторыкамі і эканамістамі. У адрозненне ад яе, другое выданне — «История Белоруссии» — было забаронена, а яго аўтар выгнаны з Беларусі. Кніга была надрукавана толькі ў 1994 годзе (у Мінску, па-беларуску), а потым перавыдадзена ў 2003-м (на рускай мове).

Сярод дакументаў, што распавядаюць пра жыццё і дзейнасць М. Доўнар-Запольскага, асобую ўвагу прыцягваюць матэрыялы з асабістага архіва вядомага беларускага гісторыка і археографа Мікалая Улашчыка. Сярод іх — фотаздымкі М. Доўнар-Запольскага розных часоў. На адным з іх Мітрафан у 12-гадовым узросце: сур'ёзным, крыху здзіўленым позіркам у аб'ектыў глядзіць хлопчык-гімназіст, што стаіць у велікаватай, відаць, пашытай навырост форме, побач сядзіць на крэсле яго бацька Віктар Мартынавіч. На другім — прафесар М. Доўнар-Запольскі разам са студэнтамі і выкладчыкамі Кіеўскага ўніверсітэта. Ён сядзіць у цэнтры, прыгожы, упэўнены ў здзяйсненні сваіх творчых планаў (1909 — 1910). На трэцім — навуковец падчас знаходжання ў Мінску (1925 — 1926): мы бачым пажылога стомленага чалавека, адна рука сціснута ў кулак, другая абапіраецца аб край стала.

У наступным раздзеле экспазіцыі прадстаўлены даследаванні творчасці М. Доўнар-Запольскага XIX — пачатку XXI ст. Асабліва цікавымі падаюцца публікацыі, якія выйшлі пры жыцці навукоўца. Сярод іх — рэцэнзіі расійскага гісторыка Мацвея Любаўскага («Отзыв на: Очерки по организации Западно-русского крестьянства в XVI веке», 1907), беларускага гісторыка Уладзіміра Пічэты («Введение в русскую историю: источники и историография», 1922). Прадстаўлены і адмоўныя публікацыі, якія адлюстроўваюць палітычную сітуацыю ў Савецкай Беларусі ў 1930-я гады, калі ацэнка навуковай дзейнасці праводзілася ў кантэксце барацьбы з «нацдэмамі». Завяршаюць экспазіцыю матэрыялы Міжнародных Доўнараўскіх чытанняў, якія праходзяць на радзіме М. Доўнар-Запольскага ў горадзе Рэчыца, з другой паловы 1990-х гадоў.

**Алена ЦІТАВЕЦ,
загадчык сектара кнігазнаўства
аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў
Цэнтральнай навуковай
бібліятэкі НАН Беларусі**

# Рарытэт у кожны дом

Прэзентацыя электроннага дыска «Брэсцкая Біблія: да 450-годдзя выдання» прайшла ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

У чытачоў, якія ведаюць пра факсімільнае выданне шэрагу помнікаў мінулага (напрыклад, Слуцкага Евангелля), можа ўзнікнуць пытанне: чаму ЦНБ пайшла іншым шляхам? Як патлумачыў загадчык аддзела рэдкай кнігі і рукапісаў ЦНБ Аляксандр Суфрановіч (?), выпуск факсіміле з'яўляецца надзвычай дарагім. Акрамя таго, установа свядома пайшла на такі крок, каб паўнатэкставая электронная версія гэтага рэдкага выдання дайшла да шырокай аўдыторыі. На DVD прадстаўлены сама Біблія, якую можна гартаць пастаронкава, артыкулы пра гісторыю яе стварэння, тыпаграфію Радзівілаў і пра асобнікі выдання. Прадстаўлена характарыстыка кожнай старонкі Біблії. Каб пашырыць кола чытачоў, на дыску змешчана навукова-папулярная прэзентацыя. А прагляд матэрыялаў суправаджаецца класічнай рэнесанснай музыкай.

Праект абыўся дзякуючы фінансавай падтрымцы ААТ «Белаграпрамбанк» і плённаму супрацоўніцтву з бібліятэкай імя Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук. Як нагадаў А. Суфрановіч, пасля Рэфармацыі ў ВКЛ прыйшла Контррэфармацыя. Каб выратаваць асобнікі «Брэсцкай Біблії», якія знішчаліся, даводзілася вырываць першую і апошнюю старонкі. Таму поўных асобнікаў амаль нідзе няма. Адзін з іх захоўваецца ў Бібліятэцы Урублеўскіх. Калі рабілася алічбоўка, якую ажыццявіў Беларускі навукова-даследчы цэнтр электроннай дакументацыі, дык супрацоўнікі ЦНБ папрасілі літоўцаў зрабіць копіі старонак, якіх не хапала.

Падчас прэзентацыі адбылося адкрыццё выстаўкі «Брэсцкая Біблія — шэдэўр кнігадруку XVI ст.», на якой былі прадстаўлены арыгінальнае выданне, а таксама даследаванні, прысвечаныя Брэсцкай Біблії і Мікалаю Радзівілу Чорнаму.

Пасля завяршэння імпрэзы прадстаўнікі буйных бібліятэк і іншых устаноў навукі, адукацыі і культуры атрымалі экзэмпляры электроннага дыска ў падарунак.



# Ходзіць добры дзед па свеце…

Пісаць для юнага чытача — справа сур'ёзная. Тут мала мець талент, патрэбна яшчэ ўмець размаўляць з дзецьмі, разумець іх душы. Менавіта такім пісьменнікам і з'яўляецца Мікола Чарняўскі, сустрэча з якім прайшла ў Гатаўскай сельскай бібліятэцы.

У гэтым годзе Міколу Чарняўскаму споўнілася 70 гадоў, 55 з якіх ён служыць літаратурнаму слову. Яго творы перакладзены на ўкраінскую, малдаўскую, літоўскую, кіргізскую, туркменскую, грузінскую, чувашскую, башкірскую мовы. Пераствараў на беларускай мове творы многіх паэтаў і празаікаў далёкага і блізкага замежжа. З'яўляецца аўтарам шэрагу тэкстаў песень і кантат. Вершы і казкі паэта змешчаны ў школьных падручніках і чытанках. За высокае прафесійнае майстэрства, значны асабісты ўклад у развіццё нацыянальнай літаратуры і культуры творца ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Дэбютаваў Мікалай Мікалаевіч у газеце «Піянер Беларусі» вершам «Васілёк». «Вобраз сінявокага васілька, дата яго з'яўлення ў друку, сталі ў маім далейшым жыцці, можна сказаць, па-свойму зорнымі, знакавымі, — узгадаў падчас сустрэчы пісьменнік. — Я двойчы станавіўся лаўрэатам рэспубліканскіх закрытых конкурсаў на лепшы твор для дзяцей і юнацтва».

У Гатаўскай сельскай бібліятэцы кнігі Міколы Чарняўскага, асабліва «Сонечны кошык», сталі ўжо настольнымі. Імі карыстаюцца і бібліятэкары, і настаўнікі і шматлікія юныя чытачы. Па творах праводзяцца літаратурныя хвілінкі і вандроўкі.

Падчас сустрэчы адбылася прэзентацыя новай кнігі пісьменніка «Ці растуць грыбы ў Грыбна», у якой можна знайсці мноства новых вершаў, казак, загадак і шарад на любы густ. Ні юных, ні дарослых чытачоў не пакінуць раўнадушнымі паэтычныя казкі, змешчаныя ў кнізе. У чытальнай зале бібліятэкі Мікалай Мікалаевіч чытаў вершы, падзяліўся творчымі планамі і адказаў на пытанні. А пры канцы сустрэчы чытачы не ўпусцілі шанц атрымаць аўтограф Міколы Чарняўскага і набыць кнігу, якая толькі выйшла з друку.

**Іна УРБАН,
загадчык Гатаўскай сельскай бібліятэкі**

# Ад «кнігазбораў» — да Брэсцкай Бібліі

**Міжнародны «круглы стол», прысвечаны ўнікальнаму помніку культуры XVI стагоддзя, прайшоў у горадзе над Бугам. Арганізатарамі выступілі Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага і Упраўленне культуры Брэсцкага аблвыканкама.**



Фота Мікалая Чаберкуса

*Злева направа: намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама Леанід Цуприк і загадчык аддзела рэдкіх кніг Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу Мікалай Нікалаеў.*

## ШТО АБМЯРКОЎВАЛІ Ў БРЭСЦЕ?

Бадай, не будзе перабольшваннем сказаць, што на айчыннай бібліятэчнай прасторы брэсцкая кніжніца разам з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Цэнтральнай навуковай бібліятэкай імя Я. Коласа НАН Беларусі з'яўляюцца самымі актыўнымі «гульцамі». Але калі актыўнасць НББ і ЦНБ у пэўнай ступені абумоўлена іх статусам, дык дзейнасць брастаўчан можа і павінна з'яўляцца прыкладам для калег. Варта ўзгадаць пра кнігазнаўчыя канферэнцыі «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследаванняў». Яны праводзіліся бібліятэкай імя М. Горкага ў 2008 і 2012 гадах і пераўтвараліся ў прэстыжны міжнародны форум. Іх лагічным працягам стаў міжнародны «круглы стол», поўная назва якога — «Брэсцкая Біблія — унікальны помнік культуры XVI стагоддзя: да 450-годдзя выдання».

Як вядома, больш як чатыры стагоддзі таму ў Еўропе актыўна адбывалася Рэфармацыя — рух за рэформу каталіцкага касцёла. Першым з магнатаў ВКЛ, які падтрымаў яе і перайшоў у кальвінізм, стаў канцлер княства Мікалай Радзівіл Чорны. Для пашырэння ідэй Рэфармацыі ён заснаваў друкарню пры Берасцейскім зборы, дзе 4 верасня 1563 года за кошт Радзівіла і пры яго ідэйнай падтрымцы была выдадзена так званая Брэсцкая, або Радзівілаўская, Біблія (яе поўная назва гучала як «Біблія святая, гэта значыць Кніга Старога і Новага запаветаў з яўрэйскай, грэчаскай і лацінскай нанава на польскую мову са стараннасцю і дакладна перакладзеная»).

Біблія сапраўды ўключала ўсе тэксты Старога і Новага заветаў і стала адным з першых поўных перакладаў у новы час з моў арыгінала. Знешне Біблія ўяўляла сабой вялікі фаліянт у 738 старонак, апраўлены ў скураную вокладку з малюнкамі і графічным афармленнем. Тэкст быў надрукаваны гатычным шрыфтам у дзве калонкі па 58 радкоў у кожнай. На палях амаль кожнай старонкі былі каментарыі да тэксту. Упершыню ў гісторыі беларускага кнігадрукавання меўся прадметны паказальнік. Выданне «Бібліі» распачало новы этап у беларускім Рэнесансе.

На жаль, у Беларусі маецца толькі адна няпоўная Брэсцкая Біблія, якая захоўваецца ў ЦНБ імя Якуба Коласа. А вось колькасць асобнікаў, якія засталіся ў свеце, спрэчная. Агульнапрызнаная лічыцца лічба каля 40 (яна і гучала на «круглым стале»). А ўжо ў Мінску давялося пачуць меркаванне даследчыка Георгія Галенчанкі. Спасылаючыся на літоўскіх калег, ён агучыў інфармацыю, што асобнікаў, як мінімум, удвая больш — каля 80. Чым не падстава для працягу дыскусіі?

## ПРЫВІТАННІ… І ПРАВАКАЦЫІ

Круглы стол пачаўся традыцыйнымі прывітаннямі ў адрас удзельнікаў ад імя высокіх дзяржаўных асоб. Удзельнікаў і гасцей павіталі намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама Леанід Цупрык, генеральныя консулы Украіны і Расіі ў Брэсце — адпаведна Алег Мысык і Мікіта Матвоўскі, дырэктар мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой» Рыгор Бысюк. На пленарным і секцыйных пасяджэннях, якія адбываліся ў зале пасяджэнняў «Брэсцкай крэпасці», выступіла каля двух дзясяткаў дакладчыкаў з Беларусі, Украіны, Расіі, Польшчы, Літвы і Латвіі. Газетны фармат не дае магчымасць прадставіць думкі кожнага з іх. Таму спынюся толькі на тэматыцы асобных выступленняў.

Леанід Цімашэнка, дэкан гістарычнага факультэта Драгобычскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Івана Франко (Украіна), разважаў над культурнымі праблемамі ўзаемаўплыву паміж пратэстантамі і праваслаўнымі ў ВКЛ. Дакладней, паспрабаваў высвятліць, у якой ступені пратэстанцкі канон адбіўся на выданні Брэсцкай Бібліі. У адрозненне ад праваслаўнага і каталіцкага канонаў, у пратэстанцкім на 7 кніг менш (бо яны трактуюцца як апакрыфічныя). Падчас выдання Бібліі гэты радыкалізм не праявіўся, таму берасцейскае выданне было папулярным сярод праваслаўных. Яно паўплывала на шэраг іншых



Фота Мікалая Чаберкуса

ва Украіне. Даследчыкі ўпэўнены, што Іван Фёдараў трымаў у руках Брэсцкую Біблію.

Таксама Л. Цімашэнка выказаў дастаткова правакацыйную ідэю: калі «Біблія» маецца ў бібліятэках свету, дык ці варта лічыць яе рэдкім выданнем? Мы ж не ведаем яе накладу і накладу таго часу. Украінскаму прафесару ўдала апаніраваў намеснік дырэктара НББ Алесь Суша. Ён нагадаў, што ў Беларусі існуюць даўно ўсталяваныя крытэрыі. Калі ў краіне засталося менш як 10 асобнікаў, яны лічацца ўнікальнымі. Што датычыць катэгорыі «рэдкіх» выданняў, дык пры пэўных умовах кніга можа захоўвацца нават у 50 асобніках, але з'яўляцца рэдкай.

## НАВОШТА ОРДЭН? Я ЗГАДЖУСЯ НА МЕДАЛЬ!

Загадчык кафедры фізікі Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта Анатоль Гладышчук, які здаўна цікавіцца мінулым горада, паразважаў над пытаннем, у якім годзе Брэст упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах: 1017 ці 1019? Другая дата з'яўляецца афіцыйнай. Не ў апошнюю чаргу гэта звязана з традыцыяй святкавання юбілеяў, якая распачалася з 1969 года. Вытокі такой версіі — у запісе Лаўрэнцьеўскага летапісу, згодна з якім на горад хадзіў з паходам Яраслаў Мудры. Але раней не звярталася ўвагі, што у летапісе напісана не «Берасцью», а «Бестою», а гэта не адно і тое ж. У сваю чаргу, першая дата ўзгадваецца ў Наўгародскім летапісе. Акадэмік Ліхачоў і іншыя лічылі, што яна памылковая. Тым больш, у пазнейшых летапісах было дапісана, што Яраслаў хадзіў на Кіеў. Спасылаючыся на іншых даследчыкаў, выступоўца давёў, што ў той час князь якраз там і знаходзіўся! Таму, на думку А. Гладышчука, больш правільна казаць пра 1017 год як час заснавання Брэста. А значыцца, святкаваць тысячагадовы юбілей можна на два гады раней.

Адной з «разынак» канферэнцыі стала прэзентацыя памятнага медаля, прысвечанага Брэсцкай Бібліі. З аднаго боку змешчана інфармацыя пра месца друкавання і юбілей Бібліі («Друкавана ў Берасці. 1563 — 2013»). З другога — тэкст, што фундатарам з'яўляўся Мікалай Радзівіл Чорны. Уся інфармацыя напісана беларускай лацінкай, якая ўжывалася ў нашай мове нароўні з кірыліцай. Усяго было выраблена 50 медалёў, частка з якіх ужо падчас «круглага стала» знайшла сваіх гаспадароў. Прычым, уручаў падарункі мастак Мікола Кузьміч, які ажыццявіў узнаўленне крыжа Ефрасінні Полацкай. Медаль № 1 (кожны з іх мае нумарацыю) застаўся ў Брэсцкай абласной бібліятэцы, № 2 быў перададзены ў НББ, № 3 — у ЦНБ, медаль № 4 накіраваўся ў Расійскую нацыянальную бібліятэку, № 5 — у Маскоўскі дзяржаўны гістарычны музей і г. д.

## ДЫСК І КАРТА — У ПАДАРУНАК

Загадчык аддзела рэдкай кнігі і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа Аляксандр Сцефановіч прэзентаваў электронны варыянт Брэсцкай Бібліі. Паводле яго, пасля Вялікай Айчыннай вайны ў Беларусь не вярнулася каля 80% пісьмовых помнікаў. Паколькі доступ да каштоўнасцей, якія засталіся, абмежаваны вузкім колам даследчыкаў, ЦНБ вырашыла яго пашырыць.

Кацярына Шчарбакова, дацэнт кафедры грамадска-гуманітарных дысцыплін Маскоўскай школы эканомікі МДУ імя Ламаносава, распавяла пра з'яўленне Брэста ў еўрапейскай картаграфіі. Упершыню гэта адбылося ў 1507 годзе, калі ў Рыме была зроблена гравіраваная на медзі карта. Але хутчэй за ўсё, горад на Бугам трапіў туды «па знаёмстве»: карту дапамагаў ствараць адзін з ураджэнцаў Польшчы, які добра ведаў рэгіён. Бо ў наступную палову стагоддзя Брэст надоўга знік з карт і з'явіўся там толькі ў 1513 і 1520 гадах (прычым другая карта з'яўлялася рэмейкам папярэдняй). Але ў перыяд з 1563 па 1572 гады свет пабачыла карта галандскіх гравёраў Яна і Лукаса Дэтэкумаў «Новае апісанне паўночных рэгіёнаў», якая ахоплівала тэрыторыі ад Скандынавіі да Заходняй Сібіры. Калі на папярэдніх выявах Брэст не адзначаўся, дык у «Новым апісанні» ён быў зафіксаваны і з таго часу не сыходзіў з карт. Калі ўлічваць, што большасць карт была выдадзена або ў пратэстанцкіх краінах, або ў гарадах, дзе панавала талерантнасць (напрыклад, Венецыі), існуе вялікая спакуса звязаць пашырэнне звестак пра горад над Бугам з выданнем Брэсцкай Бібліі. Зрэшты, далейшым вывучэннем праблемы змогуць заняцца мясцовыя даследчыкі, паколькі копія «Новага апісання» (як, дарэчы, і сігнальны асобнік дыска ЦНБ) была падаравана Брэсцкай абласной бібліятэцы.

## ТЭАТР ЛЯЛЕК І ФОРТ № 5

Адметнасцю брэсцкіх форумаў заўжды з'яўляецца багатая культурная праграма, якая дазваляе гасцям горада і рэгіёна пазнаёміцца з яго здабыткамі. Сёлета яна ўключала некалькі пунктаў.

Навукоўцы сталі гледачамі Брэсцкага тэатра лялек, дзе ўбачылі знакамітага «Халстамера» (рэжысёр Руслан Кудашоў). У 2011-м на XV Сусветным фестывалі тэатраў лялек у Празе пастаноўка заваявала гран-пры і была адзначана трыма дыпломамі: за лепшую рэжысуру, сцэнаграфію і музычнае афармленне.

Далей гасцей чакалі экскурсіі па мемарыяльным комплексе «Брэсцкая крэпасць-герой»: па тэрыторыі крэпасці, непасрэдна па музеі, а таксама на форт № 5. Асаблівае ўражанне пакінула апошняя вандроўка. Форт, які, дарэчы, размяшчаецца за 250 метраў ад дзяржаўнай мяжы, з'яўляецца адным з дзевяці такіх аб'ектаў, якія будаваліся на пэўнай адлегласці ад Брэсцкай крэпасці і мусілі прыкрываць яе ад нападу. Форт прыняў на сябе адзін з першых удараў немцаў. Характэрна, што пасля вайны з супрацоўнікамі музея звязаліся толькі два чалавекі з ліку яго былых абаронцаў. Акрамя таго, агляд форта дазваляе ўявіць, як і дзе базіравалася расійская армія ў XIX стагоддзі. Спадзяюся, што з часам пры наяўнасці сродкаў у форце можна будзе адкрыць шыкоўную экспазіцыю.

Адносна асноўнага комплексу «Брэсцкай крэпасці» падзялюся двума назіраннямі. Перш за ўсё, вельмі прыемна, што супрацоўнікі не абмяжоўваюцца вывучэннем толькі падзей 1941 года. У экспазіцыі годна прадстаўлена як гісторыя XIX стагоддзя, так і перыяд знаходжання крэпасці пад уладай Польшчы. Асобныя стэнды прысвечаны абароне крэпасці ад немцаў у 1939 годзе. Такія «дробязі» сведчаць пра шырыню вывучэння праблемы і адсутнасць яе штучнай звужанасці. Што да агульнага ўражання, дык аўтар гэтых радкоў, як і шэраг аднагодкаў, упершыню наведаў крэпасць яшчэ ў школьныя гады. Але, па вялікім рахунку, асэнсаваць подзвіг Брэсцкай крэпасці і скласці цэласнае ўражанне пра мемарыял змог толькі цяпер.

***

Фармальна праца «круглага стала» завяршылася. Але плённая дзейнасць бібліятэкі імя Горкага не спыняецца. Перш за ўсё, запланаваны выпуск зборніка дакладаў. На пасяджэннях гаворка ішла пра неабходнасць правядзення як трэціх «Берасцейскіх кнігазбораў», так і «круглых сталоў», прысвечаных значным падзеям у гісторыі горада (напрыклад, Брэсцкай уніі). Выступаючы на пленарным пасяджэнні, Алесь Суша прапанаваў выявіць захаваныя асобнікі Брэсцкай Бібліі, забяспечыць іх улік і поўнае апісанне на ўзроўні асобніка, стварыць зводную базу дадзеных усіх выданняў, атрымаць лічбавыя копіі Брэсцкай Бібліі з замежных збораў, факсімільна перавыдаць кнігу, папулярызаваць гісторыю Біблії, яе стваральнікаў і друкароў. А таксама імкнуцца да набыцця поўнага асобніка для бібліятэк Беларусі. Таму будзем спадзявацца, што дзяржава і надалей будзе падтрымліваць ініцыятывы абласной бібліятэкі імя М. Горкага, якія спрыяюць вывучэнню мінулага Брэста і горада на прастаўлюшча горад над Бугам на еўрапейскай культурнай прасторы.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# Ці можа тэатр без спонсара?

Вырашэнне праблем грамадства — у духоўным і культурным росце кожнага чалавека. Запусціць працэсы пазнання саміх сябе, падштурхнуць людзей да стваральнай працы, дапамагчы неабыякавым — гэтыя задачы вырашае беларускі бізнесмен Алег Уладзіміраў. У мінулым годзе «ЛіМ» ужо сустракаўся з мецэнатам і цікавіўся тым, што заахвоціла яго заняцца фінансавай падтрымкай беларускага акадэмічнага мастацтва і якім праектам ён аказвае дапамогу. Як сёння ідуць справы ў абранай ім сферы дзейнасці, спадар Уладзіміраў распавёў нашаму карэспандэнту.

## А ЦІ БЫЎ... КОНКУРС?

**— Як вы ацэньваеце вынікі сёлетняга Адкрытага конкурсу маладых вакалістаў імя Манюшкі, які гэтым разам быў прызначаны для студэнтаў-вакалістаў вышэйшых навучальных устаноў і зноў, як і ў мінулым годзе, прайшоў пры вашай фінансавай і арганізацыйнай падтрымцы?**

— У цэлым я задаволены яго вынікамі. Іншы варыянт правядзення «Убельскай ластаўкі» вымагае зусім іншых грошай, а вынік быў бы, магчыма, толькі на нейкую долю працэнта лепш. Дзякуючы добрай волі кіраўніцтва Беларускага музычнага тэатра мы маем магчымасць карыстацца ўсёй яго базай, а гэта дарагога каштуе. Адзінае сур'ёзнае пытанне, якое ў мяне паўстала, — гэта чаму конкурс прайшоў абсалютна не разгорнута ў інфармацыйным плане, чаму з боку тэатра быў нейкі інфармацыйны штыль? Бо з-за гэтага ў пэўнай ступені губляецца сэнс самой падзеі.

**— Вы гатовы павялічваць суму, якую ўкладаеце ў развіццё гэтага конкурсу?**

— Я не бачу неабходнасці. Гэта конкурс для студэнтаў музычных ВНУ, у якім не ўдзельнічаюць прафесійныя выканаўцы. У дадзеным выпадку не трэба ў журы прываблівць вялікімі грашыма дырэктараў тэатраў, імпрэсарыа, каб канкурсанты «засвяціліся» перад гэтымі людзьмі. Акрамя таго, сёлета ў нас адбылася фантастычная рэч: некаторыя члены журы са сваёй уласнай кішэні заплацілі прызавыя тым удзельнікам, якія ім спадабаліся ў якім-небудзь з відаў праграмы. Спачатку саліст Вялікага тэатра Ілья Сільчукоў сказаў, што хоча гэта зрабіць, затым, даведаўшыся пра такі выдатны пачын калегі, да яго далучыліся салістка Вялікага тэатра Аксана Волкава і старшыня журы конкурсу, кіраўнік Творчага калектыву «Беларуская Капэла» Віктар Скорабагатаў. На самай справе гэта нечуваная рэч, каб члены журы вакальнага конкурсу не бралі грошы, а плацілі іх!

## НІКОМУ НЕ ТРЭБА?

**— Да чаго вы імкняцеся ў сваёй дзейнасці?**

— У мяне ёсць важны стымул. Я хачу, каб ніхто не мог сказаць «нікому нічога не трэба». Адпаведна, трэба зрабіць так, каб маладыя людзі як мінімум не маглі сфармуляваць гэтую фразу, таму што бачылі: камусьці ёсць справа да таго, што адбываецца навокал. Вось напрыклад, як Ільі Сільчукову, які сваё асабістыя грошы аддае ў якасці заахвочвання маладым спевакам.

Ёсць Віктар Іванавіч Скорабагатаў, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, прафесар, унікальны спецыяліст у сваёй галіне, які зрабіў столькі для беларускай музычнай культуры, што ўявіць складана! Але ён і яго каманда не могуць і не павінны быць адзінымі ў сваёй галіне. Трэба распальваць і іншыя агмені, якія ствараць агульны фон і пакажуць, што ёсць такі від дзейнасці — знаходзіць нашы карані і прадстаўляць іх публічна. Аднак сёння ніякай сістэмнай дзейнасці не вядзецца, не пабудавана структуры з кантролем выніку, а менавіта: знайшлі, высветлілі аб'ём задач, размеркавалі іх, апрацавалі матэрыял, давялі да розуму, выпусцілі ў свет у выглядзе канкрэтнага канцэрта і канкрэтнага нотнага матэрыялу для працы ўсіх астатніх. Канкурэнтнага асяроддзя проста няма, усё адбываецца кропкава і выключна валявым намаганнем Віктара Скорабагатава, Ганны Каржанеўскай і яшчэ некалькіх людзей, якія неабыякава ставяцца да беларускай музычнай гісторыі.

У Віктара Іванавіча сабраны найбагацейшы матэрыял, але практычна ўвесь ён сыходзіць «у стол», а дакладней, — у велізарную шафу. Але ж павінны быць месцы ўжывання, гучання... Менавіта іх я і стараюся па меры магчымасцей арганізаваць. І цяпер, калі Фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы», які таксама праводзіць «Беларуская Капэла», сутыкаецца з фінансавымі цяжкасцямі, я думаю над тым, што, магчыма, мне трэба пераразмеркаваць свае намаганні на яго карысць і перастаць, прыкладам, падтрымліваць у ранейшым аб'ёме іншыя свае праекты...

**— Вы маеце на ўвазе Камерны музычны тэатр «Галерэя»? Вы ж самі сцвярджалі, што сёння прыватнаму тэатру немагчыма існаваць без спонсара…**

— Калі мы сыходзім з таго, што на сцэне трэба сусальнае золата, то немагчыма. А калі гаворым пра рэжым існавання «быць», а не «здавацца», то тэатр пражыве і наогул без спонсарскай дапамогі.



*Сцэна са спектакля «Verbum Nobile». Зося (Галіна Дубіцкая) і Марцін (Аляксандр Жукаў).*

Напрыклад, камічная опера «Рыта, альбо Піраці трохвугольнік» у Вялікім тэатры — мілая камерная штучка, якая каштуе зусім невялікіх грошай, — асабіста ў мяне пакінула незабыўныя эмацыянальныя ўражанні. Гэта значыць, трэба выбраць фармат і правільна яго падаць. Грошы тут не адыгрываюць прынцыповай ролі, важная эмацыянальная трансляцыя, якая дайшла да адрасата. Калі яна не дайшла, то ніякае золата не дапаможа. І наогул мяне не цікавіць камерцыйны поспех — гэта клопат прадзюсара. Мяне цікавіць выключна факт, падзея. Пасля прэм'еры «Verbum Nobile» Станіслава Манюшкі я задаволены на 105 працэнтаў! Падзея адбылася, ёсць рэзананс у пэўных тэатральных і музычных колах.

## ГАЛЕРЭЯ ПРОДКАЎ

**— Якія планы ў Камернага музычнага тэатра «Галерэя» пасля пастаноўкі оперы Манюшкі?**

— Асабіста я б яшчэ дзесяць Манюшкаў паставіў, пакуль не адновім усю яго спадчыну. А заадно яшчэ оперу Міхала Клеафаса Агінскага «Зэліс і Валькур, або Банапарт у Каіры». Прафесар Скорабагатаў лічыць гэта прафанацыяй, сцвярджае, што ў матэрыяле шмат праблем, у тым ліку і ў аркестроўцы. Аднак мне гэта абыякава, няхай тыя, каму не спадабаецца наша інтэрпрэтацыя, зробяць лепш. Проста трэба даць першы імпульс, бо Агінскі — гэта беларускі брэнд, прызнаны шырока ва ўсім свеце, і сорамна, што адзіная опера, якую напісаў гэты кампазітар, не адноўленая.

**— І вам абсалютна ўсё роўна, якой якасці прадукт атрымаецца на выхадзе?**

— Так! Калі ніхто не робіць нічога, то гэта ўсё роўна будзе адзінка дзеяння. А наступны чалавек тады скажа: «Не, так няправільна» — і пераробіць. Няхай перарабляюць шэсць сотняў жадаючых, няхай гэты матэрыял возьме нейкі музыкант і зробіць, дапусцім, як Шчадрын «Кармэнсюіту». Гэта можа быць цалкам калектыўная творчасць: Агінскі працяжнік Байдаў, Агінскі працяжнік Касцяхін, Агінскі працяжнік хто заўгодна. Галоўнае, каб гэтую музыку пачулі, каб яна атрымала новае жыццё.

## ДОМ-ФАНТОМ

**— Наколькі мне вядома, вы спрабавалі таксама зрушыць з мёртвай кропкі сітуацыю, звязаную з радавой сядзібай Станіслава Манюшкі ў Чэрвені...**

— Сядзібы Манюшкі ў Чэрвені не існуе. У 1990-я гады палякі былі зацікаўлены ў тым, каб яе аднавіць, і многае паспелі зрабіць. Аплацілі праектныя работы, кажуць нават, што і будматэрыялы. А рэальна нічога не адбылося: іншымі словамі, яны разгарнуліся, з'ехалі і больш да гэтага пытання не вярталіся. Цяпер тут знаходзіцца санаторый, які валодае зямлёй. Атрымліваецца, каб аднавіць сядзібу на гэтым самым месцы, зямлю трэба выключыць з карыстання санаторыя і даць яму іншую. Для гэтага патрэбна воля дзяржавы. Альбо можна пабудаваць сядзібу дзесьці паблізу, дзе Манюшка так ці інакш усё роўна з сачком за матылькамі ганяўся. Але мясцовыя ўлады не праяўляюць ніякай зацікаўленасці, а я не магу нікога прымушаць. Рабіць жа ўсё на камерцыйнай аснове, аплачваючы кадастравыя кошты зямель і гэтак далей, для таго каб узнавіць той музей, якім абавязаны займацца дзяржаўныя структуры, у мяне няма ніякага жадання. Такім чынам, намер дапамагчы я выказваю, а рэзанансу не адбываецца. Так што з майго боку атрымліваецца пэўная правакацыя, я магу хоць сто мільёнаў долараў прапаноўваць, але ўсё роўна нічога не адбудзецца, ніхто не праверыць маю плацежаздольнасць.

## ПЫТАННІ І АДКАЗЫ

**— Як вы думаеце, чаму так адбываецца?**

— Галоўны «яздок» беларускага сумлення — лянота. Мне ўвесь час кажуць: «гэта немагчыма», «так нельга», «гэта ніхто не зробіць»… А потым аказваецца, што было магчыма, што можна было зрабіць і ў два разы танней, і ў дзесяць разоў хутчэй... Хтосьці сказаў: для таго каб куды-небудзь паспець, трэба проста крыху раней выйсці…

**— Што вамі кіруе ў вашай працы?**

— Для мяне гэта і многае іншае — проста гульня. Немагчыма ўспрымаць сур'ёзна тое, да чаго ставяцца несур'ёзна ўсе. А тыя людзі, якія нешта спрабуюць зрабіць, усё роўна не ствараюць крытычнай масы. Нічыё жыццё не варта таго, каб быць страчаным у выніку процідзеяння большасці. Гэта бессэнсоўна і кепска ў дачыненні да нашчадкаў. Трэба рабіць усё, каб дзецям было добра. Рабіць дрэнна для дзяцей нельга, не рабіць дзяцей забаронена! Трэба рабіць дзяцей і рабіць для іх добра — гэта адзіныя неабходныя рэчы. Адпаведна, усё, што не трапляе ў гэтую схему, не можа быць прынята грамадствам. Для мяне дзеці і тое, што павінна для іх адбыцца, і з'яўляецца матывам.

У нас чамусьці каштоўна толькі тое, што матэрыяльна. Калі ў доме, які называецца Палац Радзівілаў, не хапае шасцісот цаглін, то трэба ў яго пакласці гэтыя цагліны, і ён стане цэлы. Вось такія мэты і задачы нам зразумелыя. А калі гаворка ідзе пра значна больш моцны і важны падмурак — фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці?.. Мы, не вырашаючы цяпер гэтай задачы, перакладваем яе на дзяцей і ўнукаў.

На самай справе гэта ўсё прапісныя ісціны. Большасць беларусаў іх разумее, але не хоча канвертаваць у рэальныя дзеянні, у адказнасць перад сабой.

**Ганна ІВАНОВА,**
**фота прадастаўлена камерным музычным тэатрам «Галерэя»**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Тацяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны: галоўны рэдактар — 284-66-73; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы: публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04; аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2583
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 04.07.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2944
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686